ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 39 (2501)
ПЯТНІЦА
26
чэрвеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





*Дырыжор Беларускага тэатра оперы і балета, народная артыстка БССР Таццяна Міхайлаўна Каламійцава.*

Фота Ю. ІВАНОВА.

ПЕРШЫ СЯРОД РОЎНЫХ у ансамблі музыкантаў — так гавораць пра дырыжора. Ён нібы капітан на караблі. Ад яго волі, розуму і тэмпераменту залежаць гучанне і напал музычнай стыхіі. Ён вядзе за сабой, дыктуе падказвае, захапляе. Здаецца, яго рука схапіла маланку з навальнічных хмар і запальвае ёю сэрца чалавека — і там, на сцэне, і ў аркестры, і ў зале. Такая і Таццяна Каламійцава ў Беларускім оперным...

Чытайце нарыс «Маланка ў руцэ» на стар. 8.

# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МАЛАДОСЦЬ!

Ад далёкай Курыльскай грады да Брэста, ад прыгранічнай Кушкі да самых паўночных ускраін — ва ўсіх кутках нашай неабдымнай Радзімы будзе адзначацца свята юнацтва—Дзень савецкай моладзі.

Савецкая моладзь. След яе рук ва ўсім, чым мы ганарымся, чым славімся на ўвесь свет.

Хто прыязджае зараз у маладыя гарады Беларусі Салігорск, Наваполацк, Светлагорск, мо і не падазрае, што пачыналіся яны з палатак, з задорнай камсамольскай песні. Пра гэта тут зараз напамінаюць назвы вуліц — Маладзёжная, Камсамольская, імя Блахіна, першага камсорга Наваполацкай будоўлі.

Уявіце сабе горад з насельніцтвам у 70 тысяч, з прыгожымі дамамі, са школамі, бібліятэкамі, паліклінікамі. Такі горад можна было б пабудаваць на сродкі, асвоеныя беларускімі студэнтамі на будоўлях цаліны. Звыш 45 тысяч студэнтаў прайшлі цалінную, сібірскую загартоўку. А гэта—школа сапраўднай упартасці і мужнасці.

Сёлета ў верасні будзе адзначацца 50-годдзе ЛКСМ Беларусі. Камсамольская арганізацыя рэспублікі з трох тысяч членаў у 1920 годзе вырасла да 960 тысяч у 1970-м.

Да свайго з'езда моладзь ідзе ўпэўненым крокам—на яе рахунку ўсё больш і больш слаўных спраў. Камсамольская арганізацыя Беларускага аўтамабільнага завода, напрыклад, узяла шэфства над укараненнем новай тэхнікі і тэхналогіі, стварыла штабы па эканоміі і беражлівасці, па асваенні новай тэхнікі. Такія справы моладзі глыбока адпавядаюць палітыцы партыі, якая вызначыла магістральную лінію нашага развіцця—курс на тэхнічны прагрэс.

Зараз у рэспубліцы створаны і дзейнічаюць 6,5 тысяч творчых брыгад па новай тэхніцы, грамадскіх канструктарскіх і тэхнічных бюро.

Універсітэтамі патрыятызму сталі для моладзі паходы па месцах баявой славы савецкага народа. Больш як адзін мільён чалавек удзельнічае ў такіх паходах штогод. Сотні абеліскаў і помнікаў пабудаваны на грошы, заробленыя камсамольцамі ў нерабочы час.

Прыемна, што за апошні час значна ўмацаваліся сувязі камсамола з работнікамі літаратуры, мастацтва, культуры. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца сумесныя семінары камсамольскіх работнікаў і маладой творчай інтэлігенцыі. У канцы 1969 года такі семінар адбыўся ў горадзе Наваполацку. Семінары, нарады, фестывалі дапамагаюць творчаму росту моладзі, дапамагаюць адкрываць новыя імёны. Гэтаму садзейнічае і ўстанаўленне прэмій Ленінскага камсамола Беларусі за лепшыя творы літаратуры і мастацтва аб моладзі. Беларускі камсамол ганарыцца сваімі лаўрэатамі А. Куляшовым, І. Навуменкам, Г. Цітовічам, М. Данцыгам, Л. Голубам, К. Губарэвічам, І. Лучанком.

Маладосць — гэта час пошукаў, сцвярджэння ідэалаў. Наша савецкая моладзь жыве шчодра, усхвалявана. Яна—вартая змена старэйшаму пакаленню.

## ад пятніцы да пятніцы

# «КУЗЬМА ЧОРНЫ ЖЫВЕ СЯРОД НАС...»

Набліжаецца 70-годдзе выдатнага нашага пісьменніка Кузьмы Чорнага. Гэтай гадавіне быў прысвечаны ўрачысты вечар, які адбыўся 23 чэрвеня ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, на сцэне якога доўгія гады ішла п'еса Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына».

З вялікім уступным словам на вечары выступіў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Мележ. Ён расказаў аб жыццёвым і творчым шляху Кузьмы Чорнага, аб яго выдатных апавяданнях, аповесцях і раманах, якія ўвайшлі ў скарбніцу савецкай літаратуры.

— Гэтыя творы і цяпер хвалююць чытача, клічуць на подзвіг, — сказаў прамоўца. — Кузьма Чорны жывы, ён жыве сярод нас.

Затым выступілі Пятрусь Броўка, Макар Паслядовіч, Кастусь Кірэенка і Іван Грамовіч, якія падзяліліся сваімі ўспамінамі аб сустрэчах з Кузьмом Чорным, гаварылі аб тым велізарным уплыве, які аказала яго творчасць на многіх беларускіх пісьменнікаў.

У выкананні народнага артыста СССР Здзіслава Стомы і артыста тэатра імя Я. Купалы Уладзіміра Рагаўцова прагучалі творы пісьменніка.

У юбілейным вечары прыняў удзел сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч.



І. Мележ адкрывае ўрачысты вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння К. Чорнага.

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ЗВАННЕ ЛАЎРЭАТАЎ

чацвёртага Міжнароднага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага заваявалі нашы землякі Аляксандр Рудкоўскі, былы выхаванец Гомельскай музычнай школы, цяпер студэнт IV курса Маскоўскай кансерваторыі, Валерый Кучынскі — выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага (клас дацэнта А. Карынскага), саліст Беларускага тэатра оперы і балета.

У гэтым адказным музычным спаборніцтве ўдзельнічала 70 спевакоў з 15 краін свету. Аляксандра Рудкоўскага журы конкурсу адзначыла чацвёртай прэміяй, а Валерыя Кучынскага — шостай.

### ...ПРЭМ'ЕРА БЕЛАРУСКАГА БАЛЕТА

«Выбранніца» Я. Глебава (лібрэта А. Вярцінскага і А. Дадзішкіліяні) адбылася ў Новасібірскім акадэмічным тэатры оперы і балета. На сцэне гэтага вядомага ў краіне тэатра беларускі твор ставіцца ўпершыню. Паставіў спектакль галоўны балетмайстар Беларускага тэатра оперы і балета Атар Дадзішкіліяні. Дырыжор Рыгор Арлоў, мастацкае афармленне Альбіна Марозава. У нараджэнні спектакля прымаў удзел кампазітар, які прысутнічаў на апошніх рэпетыцыях і на прэм'еры свайго балета.

### ...ВЫСТАЎКА КОНКУРСНЫХ ПРАЕКТАЎ

жылых дамоў і гандлёвых цэнтраў для сяла адкрылася ў Мінску ў Доме архітэктара. Сярод 50 праектаў — гандлёвы цэнтр «Зорачка» для раённага цэнтра «Спадарожнік». Праект прадугледжвае ўсе выгоды для жыхароў — магазіны, майстэрні бытавых паслуг, сталовую, дзіцячы сад-яслі і іншыя аб'екты. Дэманструецца серыя праектаў жылых дамоў секцыйнага тыпу, блакіраваных жылых дамоў з кватэрамі ў адным і розных узроўнях.

Конкурс праводзіць Дзяржбуд БССР сумесна з Саюзам архітэктараў рэспублікі.

### ...ГРАМАДСКІ ПРАГЛЯД

мастацкага фільма «Шчаслівы чалавек» студыі «Беларусьфільм» адбыўся ўчора ў Мінскім Доме кіно. Аўтар сцэнарыя Фёдар Конеў, рэжысёр-пастаноўшчык Ігар Дабралюбаў, галоўны аператар Дзмітрый Зайцаў, кампазітар Р. Хозак.

### ...МЕСЯЧНІК ОПЕРНАГА І БАЛЕТНАГА МАСТАЦТВА

праходзіць у Слуцкім раёне. Цёпла сустракалі майстроў Беларускага опернага і балетнага мастацтва хлебаробы.

### ... АДКРЫЛАСЯ

ў Брэсце Усесаюзная выстаўка кніг ваенна-патрыятычнай тэматыкі, арганізаваная Камітэтам па друку пры Савеце Міністраў СССР, Дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па друку і Цэнтральным Домам Савецкай Арміі імя Фрунзе. На выстаўцы прадстаўлена больш 700 назваў кніг, брашур і альбомаў,

### ...СУСТРЭЧЫ

супрацоўнікаў часопіса «Вожык» з чытачамі адбыліся ў Пастаўскім раёне. Галоўны рэдактар Ул. Корбан, яго намеснік І. Грамовіч, супрацоўнікі часопіса Г. Кляўко, З. Бяспалы пазнаёмілі чытачоў з работай рэдакцыі, яе планамі на будучае, прачыталі свае творы. Мастакі С. Раманаў, Р. Грамыка, А. Чурко зрабілі сяброўскія шаржы на лепшых людзей раёна, паказалі выстаўку сваіх работ. Сустрэчы адбыліся на шклозаводзе «Гута» і на кансервавым заводзе, у калгасах «Бальшавік», імя Суворава, у раённым Доме культуры.

# У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

24 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Прэзідыум вылучыў творы для ўдзелу ў конкурсе на атрыманне літаратурных рэспубліканскіх прэмій БССР у 1970 годзе. На прэмію імя Янкі Купалы вылучаны кнігі перакладаў А. Куляшова «Лірыка» М. Ю. Лермантава, «Энеіда» І. П. Катлярэўскага, «Спеў аб Гаяваце» Генры Лангфэла; зборнік вершаў Р. Барадуліна «Лінія перамены дат».

На прэмію імя Якуба Коласа — аповесці А. Асіпенкі «Жыта», І. Пташнікава «Тартак», Б. Сачанкі «Апошнія і першыя», зборнік апавяданняў Я. Скрыгана «Кругі», зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў Р. Шкрабы «Характар, стыль, дэталь» і «Літаратура і мова».

Прэзідыум праўлення СП БССР абмеркаваў і зацвердзіў план работы Саюза пісьменнікаў на другое паўгоддзе 1970 года, прыняў рашэнне аб арганізацыі пісьменніцкіх выступленняў праз Бюро прапаганды мастацкай літаратуры ў карысць фонду абароны міру, а таксама разгледзеў некаторыя пытанні арганізацыйнай работы Саюза пісьменнікаў.

На пасяджэнні былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР празаікі Эдуард Ярашэвіч і Міхась Вышынскі і літаратуразнаўца Ісідар Бас.

# 54-ы НАРОДНЫ

Ганаровае званне «народны» прысвоена харавому калектыву Слаўгарадскага раённага Дома культуры, якім кіруе выпускнік Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча Віктар Балаханаў. Хор створаны ў 1955 годзе на базе жаночага хору і мужчынскай вакальнай групы, якія ў той час працавалі ў раённым Доме культуры.

У рэпертуары калектыву звыш трыццаці твораў савецкіх кампазітараў і народных песень.

Нямала робіць калектыў па прапагандзе харавога мастацтва ў раёне і вобласці. Летась ён даў 46 канцэртаў, а за чатыры месяцы бягучага года — 15 канцэртаў. Два разы слаўгарадцы выступалі ў Мінску.

## СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# ПРЭМ'ЕРА—ПЕРШЫ КРОК

**Назва гэтых нататак, вядома ж, таўталогія і штамп. Зразумела, калі прэм'ера, дык гэта — упершыню. Хай сабе мы трапілі на спектакль, які толькі пачынае сцэнічнае жыццё, або набылі ў кнігарні зборнік паэта-дэбютанта, «прабіліся» ў Дом кіно на «паказ» фільма, аб якім ніхто нічога не ведае, або ў музейнай зале нас спыніла палатно новага мастака, — заўсёды з'яўляецца адчуванне свята. Ну, калі не зусім агульнага, то яго, аўтара, ці аўтараў. Ёсць і «публіка прэм'ер» — гэта тыя, хто абавязкова пабывае на вернісажы і на першым прадстаўленні. Ёсць і рытуал віншаванняў — апладысменты, кветкі, сяброўскі поціск далоні, бывае і чарка добрага віна з адпаведным тостам. А потым...**

**Потым твор, які ўчора быў абазначаны адкрыта ці «без подпісу» як прэм'ера, жыве сваім жыццём. Акцёр і паэт, мастак і кампазітар часцей за ўсё помняць тыя прыемныя словы, што нібы пошум дубровы песцілі яго слых. Напрыклад, маладому празаіку сказалі, што ў яго першай кніжцы радуе характар пісьма нарысіста, што ён смела ўводзіць у тканіну прозы газетную лексіку... Што ж, і такое даравальна для дэбюту. Але аўтар і ў другой, і ў трэцяй кніжцы піша суха, застаецца ў палоне штампаў. Пакрытыкуйце яго за гэта, і ён спашлецца на «пасляпрэм'ерны» тост паважанага калегі па пяру. Значыцца, той у часе рытуалу віншавання замацаваў у маладога празаіка думку аб тым, што і надалей можна служыць літаратуры так, як у дэбюце. Або акцёр. Рэжысёр пакутваў з ім на рэпетыцыях, падганяючы «тыпажнасць» выканаўцы пад умовы ролі, а таварышы падказвалі, як трэба яму рабіць усё, каб і недахоп выглядаў вартасцю. А потым былі апладысменты, такія салодкія. І ў наступным спектаклі ўжо другі рэжысёр скарыстоўвае яго «тыпажнасць», дазваляе паўтарацца, толькі нагнятае «тэмпераменту»,—і зноў жа зала пляскае ў далоні. Хай сабе не ўся зала, нават далёка не ўся, але ён, акцёр, чуе «ўсю»! З'яўляецца яшчэ адзін заштампаваны выканаўца роляў «маладога героя» ці «прастака». Значыцца, тады, на прэм'еры-дэбюце, яму не сказалі праўды аб яго сапраўдных здольнасцях і аб тым, дзе ён яшчэ слабы як артыст...**

**А чаму так бывае! Чаму мы яшчэ не навучыліся па-гаспадарску, добразычліва і патрабавальна гаварыць пра нараджэнне новага ў музыцы і ў кіно, у тэатры і ў архітэктуры! Паблажлівасць, зразумелая ў атмасферы прэм'ер! Відаць, і гэта. Чаго грахі ўтойваць, хто з дзеячоў мастацтва не марыць на пачатку шляху аднойчы раніцай прачнуцца славутым, як гэта было, скажам, у біяграфіях Уладзіміра Крыловіча і Заіра Азгура, Ларысы Александроўскай і Уладзіміра Алоўнікава, Івана Мележа і Міхася Савіцкага... Але як часта некаторым здаецца, што дастаткова толькі «прабіцца» на сцэну або на вернісаж, каб цябе заўважылі, а потым усё пойдзе само па сабе, толькі паспявай рыфмы маслам змазваць або перагрыміроўвацца, трапляць у выдавецкія планы або экспазіцыі выставак! Авансам сказаныя пасля першага выступлення словы ў падтрымку здольнасцей (а іх пасля прэм'еры абавязкова назавуць «талентам») маладога аўтара ці выканаўцы забіваюць у ім голас неспакойнага шукальніка, здольнага разумна ацаніць зробленае і дапытліва дакапацца да, хай сабе і не для ўсіх прыкметных, недахопаў.**

**Гэта прыкра. Замест дзелавой атмасферы і шчырых ацэнак — фіміям. Ад яго галава кругам ідзе. Кветкі вянуць. Апладысменты аціхаюць. А той, хто так высока быў узняты на п'едэстал у час прэм'еры, яшчэ і не падумаў, што поспех у мастацтве здабываецца неўтаймаваным імкненнем да ніколі недасягальнай дасканаласці. Пачынаецца эксплуатацыя таго, што хтосьці ў той «прэм'ернай» гарачцы назваў рысамі творчасці — і ідуць кіламетры адмыслова зарыфмаванай прозы або квадратныя метры эскізна намаляваных манументальных палотнаў, мазаіка па-рамесніцку замацаваных прыёмаў ігры на сцэне і перайманьныя мелодыі песенек пра ўсё і ні аб чым... А майстрам неяк і няёмка сказаць таму, каго яны год ці пяць гадоў назад так горача віталі, што ён толькі памнажае пасрэднасць у сваёй галіне мастацтва. І спектакль трымаецца на афішы, хаця многія бачаць, што яму патрэбна новая рэжысёрская рэдакцыя. І рэдактар выдавецтва мае справу не з аўтарам, за плячыма якога ўсяго тры кніжкі, а з «вопытным» пастаўшчыком актуальнага матэрыялу, і ў кнігарнях ляжыць яшчэ адзін празаічны твор з ранейшай шэрай мовай і паспешлівымі накідамі вобразаў...**

**Давайце хадзіць на прэм'еры ў святочным настроі. І гаварыць тым, хто знаёміць нас з новым творам, добрыя, але прынцыповыя і праўдзівыя словы. І не будзем лічыць свае ацэнкі канчатковымі, — не, яны ў мастацтве такімі не бываюць і падлягаюць перагляду. Уменне радавацца поспеху таварыша па цэху ў сферы мастацтва вельмі дыялектычнае і ўбірае ў сябе як абавязковы элемент — шчырую прынцыповасць. Нездарма ж некалі старажытныя грэкі склалі афарызм: хто хваліць усё, той льсцівец; добра робіць гэта той, хто агаворкамі падказвае шлях да новага поспеху.**

*ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА*

# СУСТРЭЧА З СЯБРАМІ



Мінулым летам мінчане цёпла прымалі спектаклі Жытомірскага музычна-драматычнага тэатра. Зараз нашы ўкраінскія сябры зноў госці Беларусі. У Гомелі, Віцебску, многіх раённых цэнтрах гэтых абласцей яны знаёмяць гледачоў з п'есамі ўкраінскай класікі і сучасных савецкіх драматургаў—«Майская ноч», «Памяць сэрца», «На сёмым небе», «Грушанька» і іншымі. Гледачы нашай рэспублікі пазнаёмяцца і са спектаклем «Начная трывога» па п'есе вядомага ўкраінскага драматурга І. Качаргі.

У цяжкі 1942 год напісаны гэты твор і вось упершыню амаль праз трыццаць гадоў тэатр узяў на сябе вялікую адказнасць удыхнуць жыццё ў гэты забыты твор, адкрыць яшчэ адну старонку жыццёвай праўды. У ім—тэма ваеннага часу, мацярынскага сэрца, абавязку перад Айчынай.

Спектакль выклікае павышаную цікавасць, аб ім спрачаюцца. Пастаноўку ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра В. Толак.

На здымку — сцэна з «Начной трывогі»: артысты Н. Холад (Лена) і П. Кукуюк (Арэст).

**Л. КАДУШКІНА.**

## НАСТАЎНІКІ— ГОСЦІ ПІСЬМЕННІКАЎ

Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школ Докшыцкага раёна звярнуліся ў бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР з просьбай арганізаваць сустрэчу з беларускімі літаратарамі. Жаданая сустрэча адбылася нядаўна ў клубе Саюза пісьменнікаў у Мінску. Адкрыў яе сакратар праўлення СП БССР Іван Шамякін. Пасля яго ўступнага слова расказвалі аб сваёй творчасці, чыталі вершы і апавяданні Андрэй Макаёнак, Антон Алешка, Юрась Свірка, Аляксей Кулакоўскі, Алесь Асіпенка, Еўдакія Лось, Мікола Гамолка, Міхась Чавускі, Леанід Прокша. У сваіх выступленнях пісьменнікі падкрэслілі вялікую ролю настаўніка ў выхаванні любві да роднай літаратуры ў вучняў. На ўспамін аб сустрэчы пісьменнікі пакінулі на кніжках, набытых настаўнікамі, свае аўтографы.

## *ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

**Штотыднёвік «ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА» паступае ў рознічны продаж у абмежаванай колькасці. Таму раім быць яго сталымі падпісчыкамі.**

**Падпісацца можна на тэрмін з пачатку кожнага месяца да канца года.**

Падпіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку.

З ВОПЫТУ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Генадзь ШУПЕНЬКА

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА «ПАЛЕСКУЮ ХРОНІКУ»

НАШУ прозу сапраўды цяпер цяжка ўявіць без «Палескай хронікі» Івана Мележа. Раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» — вышэйшае дасягненне нашай сучаснай беларускай літаратуры, паказчык яе сталасці, жыццяздольнасці і вялікіх патэнцыяльных магчымасцей.

«Палеская хроніка» — новы якасны скачок у творчай біяграфіі І. Мележа, які вылучыў яго ў рады лепшых майстроў савецкай літаратуры.

У чым прычына і дзе вытокі той сапраўднай і ўсеагульнай прыхільнасці да мележавых раманаў людзей рознага ўзросту, рознага адукацыйнага, інтэлектуальнага ўзроўню? Ні пра адзін беларускі раман, відаць, не было столькі напісана, як пра дылогію І. Мележа. Сапраўды, ужо даследавана многае: ідэі і праблематыка, галоўныя і другарадныя персанажы, ужыванне дыялектных слоў і г. д.

І ўсё ж многае яшчэ не даследавана і, здаецца, не сказана штосьці галоўнае, не адшуканы ключ да творчасці пісьменніка, да канца не раскрыта тайна яго майстэрства. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Сапраўды, вялікі талент невычарпальны. Чым мастак буйней, чым больш значны яго талент, чым больш «разгалінавана» яго мастацкая сістэма, тым цяжэй адшукаць вось гэтую мастацкую сэрцавіну, «дамінанту» майстэрства пісьменніка.

А тайну мележаўскага таленту адкрыў ужо ў першых апавяданнях наш выдатны пісьменнік К. Чорны і сутнасць гэтае тайны сфармулявана была вельмі «проста»: у апавяданнях «правільна дадзен аналіз чалавечай душы».

Да сапраўднага аналізу душы чалавечай яшчэ было далёка, але як мы павінны быць удзячны чуламу сэрцу вялікага мастака, без блаславення якога можа і не было б таго заглыблення ў «глыбіні народнай душы», чым у першую чаргу і каштоўная для нас мележава «хроніка».

Многа пісалася ў нас пра шчырасць, праўдзівасць І. Мележа, пра высокую псіхалагічную культуру раманіста, пра майстэрскае, віртуознае валоданне стыхіяй роднай мовы. Не засталася па-за ўвагай і мужная гуманістычная пазіцыя пісьменніка ў адкрыцці і высока-мастацкім асэнсаванні складаных праблем жыцця (а не проста праблемы шляхоў і тэрмінаў правядзення калектывізацыі ў Беларусі, як схільны той-сёй думаць), пра філасофскую глыбіню не толькі ў асэнсаванні рэчаіснасці мінулага дня, але і ў поглядзе на чалавека ўвогуле.

Здавалася б, што пасля напісанага пра нашага селяніна, пра складаны час калектывізацыі Я. Коласам, К. Чорным, З. Бядулем, К. Крапівой, М. Зарэцкім, П. Галавачом і іншымі, — тэма калектывізацыі «вычарпана» і літаратурай і самім жыццём і пісаць пра гэты складаны і цікавы час вельмі проста. І ці не таму некаторыя раманісты нібы ўхіляюцца ад складаных праблем сучаснасці і звяртаюцца да матэрыялу сапраўды ў пэўнай ступені гістарычнага?

Не сакрэт, некаторыя крытыкі папракалі Мележа ў тым, што «палескай хронікай» ён нібы закрыўся ад складаных праблем «сучаснага жыцця».

Не маю нічога супраць таго, каб пафас пошукаў у беларускай літаратуры быў больш адчувальным, каб наш раман убіраў у сябе ўсё лепшае ў прагрэсіўнай літаратуры свету. Але перакананы, што «сапраўдная сіла жанру» правяраецца не толькі на сучаснай тэме.

Ці ж у нас мала так званых раманаў, што пісаліся «на злобу дня», аўтары якіх, відаць, шчыра імкнуліся ўзняць самыя надзённыя праблемы (часам даволі балючыя і складаныя), але так імкнуліся за «бягучым днём», што не паспявалі зазірнуць у душу чалавека — іх не выручала ніякая самая «правільная расстаноўка дзеючых сіл».

Калі бачыць у раманах І. Мележа не проста ілюстрацыю гісторыі, а спробу паказаць лёс народа і лёс кожнага чалавека, выклікаць у чытача любоў і павагу да свайго народа, «у асобным нацыянальным выражэнні» паказаць «тое самае галоўнае, вялікае і чалавечнае, што складае змест жыцця кожнага народа» (А. Фадзееў), то прыйдзецца прызнаць, што сіла, моц і хараство «палескай хронікі» не ў «стройнай класічнай расстаноўцы дзеючых сіл». І. Мележ не проста дае белетрызаваную інфармацыю, а робіць мастацкі аналіз эпохі, і цікавяць яго не толькі падрабязнасці побыту і нораваў, а перш за ўсё працэс духоўнай эвалюцыі чалавека.

Відавочна, «Людзей на балоце» Мележу было лягчэй напісаць, чым «Подых навальніцы», і другі раман у нейкай ступені ў мастацкіх адносінах нават слабейшы, чым першы (у літаратуры, як і ў жыцці, вельмі цяжка ўзысці на пэўную вышыню, яшчэ цяжэй на ёй утрымацца). А жыццёвы ж матэрыял, пакладзены ў аснову другога рамана, у асноўных сваіх «параметрах» быў скарэкціраваны таксама самой гісторыяй. У чым жа справа?

Калі гаварыць пра дзеючыя сілы, то ў «Людзях на балоце» іх было лягчэй расстаўляць з прычыны большай прастаты і «прымітыўнасці» сацыяльных адносін і меншай інтэлектуальнай разнастайнасці сялянскага асяроддзя. «Ідэйны ж бок жыцця — як справядліва пісаў А. Фадзееў А. Упіту — заўсёды цяжэй паказваць, чым фізічны».

А нашаму пасляваеннаму раману вельмі не хапала інтэлектуалізма апісанняў, насычанасці апавядальнай тканіны твораў ніцямі думак, бракавала філасофскай засяроджанасці і глыбіні, шырыні кругагляду. І. Мележ свядома пайшоў на тое, як ён выразіўся аднойчы, каб пісаць і «нецікавыя старонкі».

І. Мележ сумеў «зрабіць— кажучы словамі Т. Мана, — цікавымі рэчы, уласна кажучы, сумныя». Т. Ман, зрэшты, пад «сумнымі рэчамі» разумеў аналіз мыслення рафініраванага інтэлігента. Пад пяром нашых лепшых майстроў робіцца інтэлектуальным, узнімаецца на філасофскую вышыню роздум простага чалавека, селяніна.

Аднак нельга лічыць, што «Людзі на балоце» моцныя толькі сваёй «фізічнай фактурай», карцінамі сямейна-бытавымі, жанравымі сцэнамі, што ў першым рамане няма інтэлектуальнага пачатку, філасофскага роздуму. У «Людзях на балоце» пісьменнік паказваў душу чалавека, у «Подыху навальніцы» адчуваецца, што аўтар паддаўся настойлівым патрабаванням некаторых крытыкаў узмацніць «сацыяльны фон» і «шырэй ахапіць падзеі». І хараша, што пісьменнік у асноўным застаўся верным свайму мастацкаму прынцыпу — паказаць лёс народа праз праўдзівы і пераканаўчы паказ чалавека, праз аналіз яго душы.

Выступаць увогуле супраць важнасці сучаснай тэмы ў літаратуры і мастацтве было б не толькі наіўна, але і шкодна. Толькі тыя творы і перажываюць свой век, якія з геніяльнай мастацкай сілай асэнсоўваюць сваю эпоху. Гэта аксіёма, якой проста не патрэбны доказы. Але, як гаварыў А. Луначарскі, «хапацца за сучаснасць трэба ўмеючы», патрэбна выбіраць у гэ-

# САМАЛЁТ, ЗАВОД І ЗЯЗЮЛЯ...

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Такіх прыкладаў можна прыводзіць безліч. І, дальбог, неяк крыўдна становіцца. З аднаго боку паўтара мільёна абаронцаў прыроды, з другога — «а мы проса вытапчам, вытапчам...» І вытаптваюць. Мо таму, што абаронцы, па сутнасці, бяззбройныя?

Могуць запярэчыць — а інспекцыі, рыбныя, лясныя, санітарныя? Ім жа вунь якія правы дадзены!.. Не вельмі ўжо і вялікія правы. Скажам у Магілёве ў апошні час было аштрафавана звыш ста кіраўнікоў прадпрыемстваў за спуск у вадаёмы прамысловых адыходаў і сцёкавых вод. Ну і што? І сёння рыба, якую ловяць паміж Магілёвам і Быхавым смярдзіць газай.

Штраф, як правіла, не вельмі палохае. Часцей за ўсё штраф плоціць не кіраўнік — хаця фармальна налік зроблены на яго — а прадпрыемства. А прадпрыемства як-небудзь вытрымае штраф у 50 рублёў...

Мабыць невыпадкова многія дэлегаты з'езда ўзнімалі пытанне аб тым, каб даць грамадскім інспектарам хаця б такія правы, якія маюць дружыннікі. Можа, і слушна... А мо ў нейкіх выпадках прыцягнуць на дапамогу і міліцыю? Падлічана, што тысяча аўтамашын выкідвае за дзень у паветра да 2,5 тон вокісу вуглярода. Ну, а калі аўтамабіль выязджае з неадрэгуляваным карбюратарам, дык загазоўвае паветра ў шмат разоў больш. Міліцыянер спыніць любую машыну, якая парушыла правілы руху, але яму і ў галаву не прыйдзе праверыць яе менавіта з гэтага боку. А пад пагрозу ж ставіцца здароўе не аднаго — тысяч і тысяч людзей.

Зямля, лес, вада, паветра... Усё, чым жыве чалавек. І куды ні зірні — праблемы, праблемы...

Шмат у нас зямлі? Шмат, паспрабуйце абысці пехатою. А калі сур'ёзна — мала. Асабліва добрай, урадлівай. Будуюцца гарады, будуюцца новыя заводы і фабрыкі. І ўсё на новай зямліцы. Паглядзіце, кожны год сельскай гаспадарцы перадаюцца дзесяткі тысяч гектараў асушаных тарфянікаў, а агульная плошча сельскагаспадарчых угоддзяў амаль не павялічваецца.

Так, гарады павінны расці, па зямлі павінны крочыць мачты электраперадач. Крыўдна іншае— шмат зямлі ў нас кінута. Дастаткова сказаць, што ў рэспубліцы налічваецца звыш 30 тысяч гектараў выпрацаваных тарфянікаў, 2,5 тысячы пясчана-гравійных і глінiстых кар'ераў. Праблема? Праблема.

Гэта на зямлі. А ў зямлі? Задумлівы лес, ціхая рачулка, блакітнае неба — не скажы, як паэтычна. Нафта, калійная соль — не так паэтычна, але не менш неабходна. Гэта такі дарунак прыроды, за які чалавек павінен пакланіцца ёй у пояс.

Вось што расказаў на з'ездзе старшыня секцыі аховы нетраў Беларускага таварыства аховы прыроды М. Краснакуцкі. Пры сённяшняй сістэме здабычы солі, якая прымяняецца на Салігорскіх калійных камбінатах, на паверхню паднімаецца толькі 35 працэнтаў наяўных запасаў выкапняў. Астатняе назаўсёды застаецца ў зямлі. Але ж і з тых 35 працэнтаў застаецца палова пасля апрацоўкі на ўзбагачальнай фабрыцы. Пры такім спосабе здабычы, другі і трэці калійныя камбінаты праз 25 гадоў прыйдзецца закрываць. Вось як не па гаспадарску мы распараджаемся багаццем, якое падарыла нам прырода. Заўважым, што ў Францыі, напрыклад, здабываецца да 88—90 працэнтаў наяўных запасаў выкапняў.

А з нафтай? Як мы ганарымся беларускай нафтай. Але і чорнае зола-

# «КОЛАСУ»—ДВАЦЦАЦЬ

Грымнуў аркестр і ў імклівым танцы на сцэну выскачылі хлопцы і дзяўчаты ў яркіх нацыянальных касцюмах. Выступае народны ансамбль танца «Колас» Віцебскага раённага Палаца культуры.

Нядаўна ансамблю споўнілася дваццаць гадоў. Каля трохсот танцаў паставіў калектыў за гэтыя гады. Сярод іх такія жамчужыны народнай харэаграфіі, як «Язвінскія ўзоры», «Цапы» і г. д. На рахунку коласаўцаў дзве тысячы канцэртаў. Іх ведаюць і любяць не толькі на Беларусі. Ансамбль паказваў сваё майстэрства ў Маскве, у многіх гарадах і сёлах Расійскай Федэрацыі, Украіны, Літвы, Латвіі, Малдавіі. Нядаўна самадзейныя артысты пабывалі ў Польскай Народнай Рэспубліцы.

Зараз ансамбль на чале са сваім нязменным мастацкім кіраўніком К. Партным у новым пошуку. Наперадзе новыя здабыткі, новы поспех.




НАШЫ майстры МАСТАЦТВА

# МАЛАНКА Ў РУЦЭ...

КАНЧАЕЦЦА сезон у оперным. Ідуць апошнія спектаклі, і яшчэ будзе месяц гастроляў, і ўсё ж кожны ўжо нібы падвёў вынік.

— О, гэты сезон быў цікавым... А ў мяне? Я нават не ведаю, што вам сказаць. Мы многа працавалі над «Выбранніцай», хоць прэм'ера была яшчэ ў мінулым годзе. Зараз рыхтую два спектаклі: «Спячую прыгажуню» (вяду аркестравыя рэпетыцыі) і «Атэла». Але ж вы самі бачылі...

У калідорах опернага тэатра звычайная дзённая мітусня. Тут, здаецца, не ўмеюць хадзіць, і Таццяна Міхайлаўна таксама не ідзе — стралой ляціць па пераходах. Яе аклікаюць, яна адказвае рэзка: толькі што закончылася спеўка, рэпеціравалі квартэт з другога акта «Атэла», і якраз тады, калі спевакі захапіліся і гатовы былі паўтарыць гэтае цудоўнае месца, іх «выжылі» з залы ўдзельнікі наступнай рэпетыцыі.

— Вось так заўсёды! — З той жа імклівасцю яна збягае па лесвіцы, але яе пераймае малады саліст: «Таццяна Міхайлаўна, а як жа са мной? У мяне ўвод...»

— Вось бачыце,—раптам выбухае яна.—А ў мяне два спектаклі! І сёння яшчэ рэпетыцыя канцэрта! Я чалавек ці машына? Колькі я магу рэпеціраваць? Дзевяць, дзесяць, дванаццаць гадзін, толькі не круглыя суткі...

— Што ж, прыйдзецца спяваць без рэпетыцый з дырыжорам, — жартаўліва згаджаецца саліст.

— Ды што вы кажаце!— нават пужаецца Таццяна Міхайлаўна. — Як можна! Гэта ж спектакль! Сёння пачакайце, а заўтра я што-небудзь прыдумаю...

Твар яе ў гэты момант выглядае стомлена. Але я ўжо ведаю: стомленасць часовы, выпадковы для яе стан, хутчэй нават — настрой.

— Таццяна Міхайлаўна, вы зусім нядаўна вярнуліся з гастроляў у Ленінградзе. Кажуць, і там вам давялося дырыжыраваць двума спектаклямі без папярэдніх рэпетыцый?

— Ну, ведаеце! Іменна «давялося». Але так не павінна быць! Вядома, на гэты раз пашанцавала, усё прагучала як трэба. Дык жа не забывайце, што аркестр Ленінградскага опернага — адзін з вопытнейшых у краіне. Хм, і я, дзякуй богу, чацвёрты дзесятак за пультам!..

За што любяць людзі оперу?

Паглядзіце на публіку, калі гучыць у зале старая знаёмая «Аіда». Тая самая «Аіда», якую снобы папракаюць за ўмоўнасць і меладраматызм сюжэта! Публіку бярэ ў палон не сюжэт. Падвоеныя геніяльнай музыкай бушуюць над залай пачуцці — палымяныя, высакародныя. У нейкі момант яны захопліваюць усіх — і рафінаваных наведвальнікаў прэм'ер, і пажылую жанчыну са стомленым будзённым тварам, якая выпадкова, відаць, трапіла «на оперу». Калі б толькі дырыжор мог убачыць, як змяняўся на працягу дзеі гэты твар!..

Дырыжор не бачыць нічога. Ён таксама пакутуе разам з Амнерыс і гіне, як закаханыя героі. А яшчэ сочыць, каб своечасова ўступілі флейты і каб Радамес не заглушыў сапрана. І калі ў зале ўспыхвае святло, апладысменты і кветкі ён успрымае нібы праз шкляную сцяну. Сапраўднае, глыбокае і спакойнае задавальненне прыйдзе крыху пазней, калі адхлынуць хвалі ўзрушэння, пагаснуць агні, і ён, выходзячы з тэатра, прыпомніць пачатак сваёй работы. Бо сённяшні спектакль, як і кожны, толькі заключны яе этап.

А галоўная работа пачынаецца тады, калі, застаўшыся ў адзіноце, дырыжор раскрывае партытуру. І, углядаючыся ў яе сухія радкі, спрабуе ажывіць, пачуць — не, не музыку, добры музыкант чытае яе з ліста, а тое, што называюць «душой музыкі» — пачуцці, думкі, асноўную ідэю аўтара. Вось у гэтыя гадзіны найвышэйшага эмацыянальнага і духоўнага ўздыму, уласна кажучы, і нараджаецца аблічча будучага спектакля, вызначаецца галоўная лінія яго музычнага развіцця...

Тады можна з чыстым сумленнем пачынаць рэпетыцыі, і хай цябе называюць «валявым дырыжорам». А Каламійцавай аркестранты жартам далі мянушку «лютая Таццяна». І слухаюцца яе, бо ўпэўнены, што яна хоча, каб усё было як найлепш. На рэпетыцыях яна бывае розная: то клапатліва абмяркоўвае ролю з маладой салісткай, падбірае ёй літаратуру, запісы майстроў, то часам нават у прысутнасці шматлікіх камісій спыніць дзеянне і закрычыць на хор: «Дакуль жа вы будзеце так пець? Я вас заўтра спыню перад гледачамі!» Або: «Стой! Гэта месца павінна гучаць так...»

«Павінна!» Магчыма, адсюль нараджаецца і жэст дырыжора. У Каламійцавай ён вельмі прыгожы. Аб ім многа пісалі, называлі яго выразным, высакародным, пластычным, стрыманым. Мне здаецца, усе гэтыя эпітэты можна замяніць адным: ён артыстычна «дакладны». Нібы ў яе руцэ не палачка, а страла, на кончыку якой—воля мастака. Нават не страла, а маланка—ззяе, пячэ, праменіць...

Мабыць, у яе ёсць любімыя настаўнікі: можа гэта Аляксандр Гаук, можа хто іншы,—не ведаю. Мне здаецца, што ў Таццяны Міхайлаўны «свой», «яе» жэст. І нараджаецца ён тады, калі яна душой паглыбляецца і ў стыхію музычнай драматургіі, і ў тую ноту, якую «выбівае» з аркестра альбо саліста. І робіць гэта далікатна і патрабавальна. Бо на спектаклі яна—у пошуку, у мастацтве. І пра жэст, мабыць, ужо не думае—ён і «сам» прыйдзе. «Хм, дзякуй богу, не адзін дзесятак гадоў за пультам!..»—гэта не толькі жарт дырыжора, а і адчуванне вопыту ў руках і ў сэрцы. І набывала яна гэты вопыт «на нашых вачах», адкрываючы прыгажосць новай для яе музыкі—Алоўнікаў, Пукст, Чуркін, Аладаў, Камінскі... Таццяна Міхайлаўна выступала з беларускім рэпертуарам і ў Мінску, і ў гастрольных вандроўках па Саюзу, і за граніцай. І адчувала шчырую радасць за поспех «сваіх» кампазітараў. І вядома ж—Чайкоўскі, Бетховен, Рахманінаў... У дырыжора Каламійцавай добрая творчая прага да работы, і яе рэпертуар заўсёды вызначаецца шырынёй. Хаця сама яна больш за ўсё любіць творы «вялікага дыхання»—гераічныя, трагічныя, з магутным гучаннем. Такія, напрыклад, як «Рэквіем» Вердзі. Працуючы над гэтым творам, яна глыбей зразумела, што ёй заўсёды будзе бліжэй оперная музыка: па магутнасці і размаху, па сіле непасрэднага эмацыянальнага ўздзеяння нішто не можа замяніць сумеснага гучання хору і аркестра. Так паступова сімфоніі і канцэрты ўступілі месца оперным і балетным спектаклям.

...«Яўгені Анегін». Нехта вельмі ўдала назваў гэты спектакль «вясеннім». Вырашана было заняць у ім толькі маладых спевакоў. А спектакль быў адказны, яго рыхтавалі для паездкі ў Маскву на дэкаду 1955 года. Лёгка сказаць, маладых. Тамара Шымко, нягледзячы на маладосць, ужо мела ў сваім творчым актыве рад сур'ёзных оперных партый. А Герман Дзмітрыеў — выканаўца партыі Ленскага — наогул спяваў у тэатры першы сезон. Многім з маладых бракавала нават простага ўмення трымацца на сцэне. Затое колькі ў іх было энтузіязму! І старэйшыя нібы памаладзелі. З якім запалам працавалі яны на рэпетыцыях—і малады Дзмітрыеў, і вопытнейшы канцэртмайстар Сямён Талкачоў, і рэжысёр Алег Маралёў, і дырыжор спектакля! Браўся пад увагу кожны нюанс арыі, кожны акцэнт ролі. Немагчыма зрабіць, каб усе партыі гучалі ідэальна. Але можна ўлічыць асаблівасці кожнага спевака. Таццяна Міхайлаўна дабілася, чаго хацела. «Аркестр не заглушае вакалістаў, як гэта часта бывае, а дапамагае выканаўцам лепш перадаць адценні геніяльнай музыкі Чайкоўскага»,—пісалі газеты пасля паказу «Анегіна» ў Маскве. Наогул спектакль атрымаў тады многа цёплых водгукаў.

У тэатральным архіве—вялікія альбомы з цяжкімі кардоннымі старонкамі: тут наклеены газетныя выразкі. Гартаю. Загаловак у «Правде»: «Падзея музычнага жыцця». Гэта 1964 год. Тэатр прывёз тады ў Маскву чатыры спектаклі, у тым ліку танееўскую «Арэстэю». «Апошнюю пастаноўку,—пісала «Правда»,—трэба ацаніць як сапраўдную падзею ў музычна-тэатральным жыцці краіны, якая ў поўнай меры паказвае багатыя творчыя магчымасці і плённасць працы беларускага опернага тэатра... Шкада, што опера гучыць з вялікімі купюрамі. Але з гэтым часткова прымірае таленавітае выкананне. Пальму першынства трэба аддаць дырыжору Т. Каламійцавай, якая з вялікай валявой мэтанакіраванасцю распараджаецца складанай музычнай «гаспадаркай» спектакля і хормайстру А. Кагадзееву, які забяспечыў стройнасць і кампактнасць гучання харавых сцэн».

Усё было велічным у гэтай оперы — жахлівыя падзеі эсхілаўскай трылогіі і ўзнятыя ў ёй філасофскія пытанні, размах пачуццяў, драматычная напружанасць дзеяння, хараство трагедыйнай музыкі С. Танеева. Мінчане і дагэтуль памятаюць спектакль. Ён спадабаўся шырокай публіцы, аб ім гаварылі спецыялісты. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР кампазітар Марыян Каваль: «Ужо сам факт адраджэння гэтага даўно забытага твора выдатнага рускага кампазітара прыцягвае ўсеагульную ўвагу. Высокай пахвалы заслугоўвае дырыжорскае мастацтва Т. Каламійцавай, якая раскрыла партытуру з патрэбнай дынамікай, эмацыянальнасцю і рэльефнасцю». Музыказнаўца Георгі Паляноўскі: «Мала таго, што тэатр аказаўся «піянерам», першаадкрывальнікам «Арэстэі» на савецкай опернай сцэне, ён яшчэ здабыў вялікі поспех у музычна-вакальным увасабленні оперы. Львіная доля поспеху «Арэстэі» па заслугах належыць дырыжору». Народны артыст Саюза ССР Іван Казлоўскі: «Я сам збіраўся паставіць оперу, але не ажыццявіў сваёй задумы. Тым больш я ўдзячны калектыву беларускага тэатра, які даў нам магчымасць поўнасцю азнаёміцца з выдатным оперным творам...»

А як добра, што ад «Арэстэі» застаўся выдатны запіс—у свой час фірма «Мелодыя» выпусціла камплект пласцінак. Бо рана ці позна кожны спектакль пакідае сцэну...

Ёсць толькі адно выключэнне, не падуладнае часу—«Лебядзінае возера». Зусім нядаўна на мінскіх вуліцах афішы паведамілі пра ўдзел у балеце французскіх салістаў. У мінулым месяцы Таццяна Міхайлаўна дырыжыравала ім у Ленінградзе, крыху яшчэ раней ленінградцы прыязджалі да нас. Жывы, любімы публікай, сённяшні спектакль. І раптам у тым жа архіве знаходзіш: «У аркестравым выкананні музыкі захоўваецца багацце нюансіроўкі і разам з тым тэмпераментная і строгая акадэмічнасць...» Рэцэнзія на двухсотае прадстаўленне. А божачка, няўжо гэта пісалася 13 гадоў назад?!

«Заручыны ў манастыры» — лёгкая, вясёлая, імклівая опера—адзін са складанейшых і цяжэйшых оперных твораў. Хуткая змена эпізодаў, разнастайнасць складаных рытмаў, свежыя пракоф'еўскія інтанацыі, імклівыя пасажы— усё гэта патрабавала ад выканаўцаў нязвыклай рытмічнай гібкасці, інтанацыйнай чуласці, па-сапраўднаму высокага майстэрства. Перад пастаноўкай Таццяне Міхайлаўне давялося спрачацца і пераконваць, што і аркестр, і хор, і салісты, безумоўна, могуць працаваць над такой партытурай. Даўно могуць—па сваім узроўні, проста няма пакуль што прывычкі. Ну, дык трэба ж яе калі-небудзь стварыць! Так упершыню на беларускай сцэне прагучаў Сяргей Пракоф'еў. Ад гэтай оперы таксама засталіся не толькі прыемныя рэцэнзіі. Засталося ўсведамленне, што калектыў можа добра справіцца са складанай сучаснай музыкай. Блізкае знаёмства з ёю, любоў да яе—ці ж гэта мала?

Толькі не трэба думаць, што ўсё і заўсёды ішло гладка. Часам падводзіў уласны тэмперамент — магутнае гучанне аркестра перакрывала галасы, або занадта хутка нарастаў эмацыянальны ўздым і выліваўся задоўга да кульмінацыі. Бывала і так—ніякіх заўваг, а ў сэрцы горыч—спектакль не ўдаўся. Часам проста здавалася—няма больш фізічных сіл... Толькі так ніколі не бывала ў час рэпетыцыі ці спектакля. А яшчэ ніколі не было, каб Таццяна Міхайлаўна пашкадавала аб выбраным шляху або адступіла перад вялікай работай, якую прыйдзецца пачынаць упершыню.

Апошняя вялікая работа—балет «Выбранніца». Тут усё было ўпершыню: усё нараджалася ў тэатры—і задума, і пастаноўка. Таццяна Міхайлаўна помніць, як пачала чытаць свежыя лісты партытуры і раптам усхвалявалася, узрадавалася: «Гэта ж музыка! Сапраўдная музыка! Бліскуча аркестраваная Яўгенам Глебавым, з выдатнай фактурай, свежымі гармоніямі, багаццем рытмаў...» А спектакль атрымаўся няроўны, сказаліся пралікі лібрэта і харэаграфіі. Працаваць над ім давялося яшчэ доўга. Але Таццяна Міхайлаўна рабіла гэта ад душы, бо ведала, што тут, як кажуць, ёсць над чым працаваць: Янка Купала набываў музычнае гучанне! Яна рада, што гэта галоўнае ацаніў і глядач. І крытыкі пісалі аб тым, што аркестр «стаў адным з галоўных удзельнікаў спектакля», называлі дырыжора «палымяным энтузіястам балету».

— Ну, апошняе, бадай, занадта!—Недзе ў глыбіні душы Таццяна Міхайлаўна не вельмі любіць весці балетныя спектаклі, дзе прыходзіцца «служыць двум багам»—музыцы і танцу салістаў. Ёй хочацца, каб усё падначальвалася толькі музыцы. Такая яна і за пультам, і ў жыцці.

— Таццяна Міхайлаўна, колькі, прыкладна спектакляў давялося вам весці?

— Не, гэта ўлічыць немагчыма. Адных прэм'ер набярэцца каля трыццаці. А было яшчэ многа замен...

— І такі напружаны рытм работы—часам жа даводзіцца паўтараць спектакль шмат разоў, — ці не прыглушае гэта фарбы, не вядзе да прафесіянальнай абыякавасці?

— Я лічу, што ў гэтых адносінах іменна музыканты знаходзяцца ў самым выгадным становішчы, бо ў нас ёсць выдатная падтрымка—сама музыка. Яна ж ніколі не блякне! Колькі разоў слухала я «Атэла»! А пачынаеш працаваць і—нібы ўпершыню адкрываеш...

— Дарэчы, гэту оперу ставіў у свой час іншы дырыжор. Чым будзе адрозніваіцца ваша трактоўка?..

— Не кажыце вы гэтага жудаснага слова! Вердзі ў гэтай оперы пераўзышоў самога сябе, узняўся да Шэкспіра! А вы раптам—«трактоўка»! Наогул я вельмі не люблю выканаўцаў, для якіх важней за ўсё раскрыць сваё «я», сваю асобу. Зразумела, маё выкананне будзе адрозніваецца ад выканання іншага дырыжора. Мая задача, мой дырыжорскі абавязак — зрабіць усё так, як хацеў Вердзі. Толькі так...

Мне раптам успамінаецца, як другі музыкант—стары, вельмі паважаны педагог—аднойчы на ўроку закрычаў: «Гэта не я хачу! Так хоча Бетховен!» І гэта—вяршыня музычнай дасведчанасці.

Р. МІХАЙЛАВА

*Мікола Капыловіч*

# КАБ ЦІХА БЫЛО...



АПАВЯДАННЕ



ЖЫВЕ старая Язэпіха ў канцы вуліцы, ля самага пагону. Селішча яе абгароджана жэрдкамі, хлявушок, ля якога стаіць парыжэлая ад сонца і дажджоў копка сена, скіданы на скорую руку з хваёвых вяршкоў. На дрывотні трохі альховых паленцаў, паміж іх сякера са злізаным гадамі лязом. З яе тырчаць драўляныя калочкі—хістаецца, спадае з куцага тапарышча абух. Хата, як і хлевушок, малая, агрузлая ў зямлю—якраз на адну душу.

Улетку Язэпіха корпаецца на сотках, носіць зелле свінчаці, зімою стараецца з дрывамі.

Так і жыве з дня ў дзень. Калі ж прыходзіць нядзеля, апранаецца ў чыстае, бярэ ў правую руку белую хустачку і выходзіць з двара, бо за шэсць дзён насумуецца па людзях і хочацца пагаманіць з імі, душу адвесці.

Вось і зараз выйшла на сяло. На ёй андарак, вышыты фартух, паркалёвы каптан з доўгімі рукавамі. Галава абвязаная белай хусткай. Клыпае пантофлямі на вулічным пяску, паглядае на людскія двары, каб каго прыкмеціць і падысці. Дзень быў пагодны. Не відно, каб хто і сядзеў дома, бо ўпусці дзень — і сена не схопіш і поле не дагледзіш. Убачыла Трахіма. Сядзеў ён, сагнуўшыся, на сваёй лаўцы, і табачыў. Старому са старым, як і малому з малым, лёгка гаворыцца, і Язэпіха падышла:

— Як здароўе, Трахімка.

— Шчэ кашляю. Прысядзь, Матруна. — Дзед разагнуў спіну, паклаў далонь на лаўку, блізка ля сябе — паказаў дзе сесці.

Язэпіха прысела, сашчапіла на каленях рукі. З іх вытаркалася хустачка:

— А дзе ж гэта, каб на свеце ціха было, твае сёння? На двары не відно.

— Сена пайшлі ў калгас зграбаць. — Кашлянуў: — А я от курэй і праўнукаў пасу.

Праўнукі, хлопчык і дзяўчынка, сядзелі ля дзедавых ног, гулялі ў нешта сваё.

— Колькі, каб ціха, гадоў ты ўжо Трахімка, на пэнсіі?

— Шаснаццаць. Да другой дажыву мо! Абрыдла ўжо. Ад нудоты ўсё перадумаў... І як малады быў, і як дзяцей гадаваў. От да цябе толькі што ўспамінаў твайго Язэпа. Ладны быў чалавек. На вячоркі, бывала, разам хадзілі. Да адной дзеўкі бегалі...

— Да мяне, — уздыхнула старая.

— А які танцор! Усе танцы ўмеў адбіць нагамі. От і адбіў цябе. Здаровы, каб добра яму спалася на тым свеце, быў чалавек. Рабацяшчы... А як гаспадарыў!

Язэпіха прыклала да вачэй хусцінку:

— Забралі ў вайну, каб на свеце ціха было... Не прыйшоў. А маіх хлопцаў не забыў? Івана і Пятра?

— Як жа... У бацьку былі ўдаліся... Бялявыя, высокія... Пятро ж лётчыкам быў...

— Быў, каб ціха было... — Язэпіха плакала. Суха, здушана. Выцірала вочы. — І Іван ваяваў... Загінулі сынкі, загінулі... Божа ж мой, божа, каб хоць дзевачку радзіла адразу за імі... Пры мне была б... Хату падмяла б... На вайну не ўзялі б яе... Няма шчасця з гэтымі мужчынамі... І мой бацька ў мікалаеўскую вайну галаву паклаў...

Трахіму шкада стала Матруны. Стаў яе ўлагоджваць:

— Чаго разрумзалася... Не ў адной цябе такое... Багата ў каго... На тое і вайна...

— Я ж не кажу, што ў адной.—Яна стала плакаць цішэй. — Хай бы бог хоць аднаго аставіў, каб ціха было... Ні дзяцей, ні ўнукаў... Не пажаніліся да вайны... Прасіла, каб хоць адзін нявестку прывёў... Не паспелі... Каб знала, што не вернуцца, дык хоць бы добра наглядзелася на іх.

— Плач не плач — іх не выплачаш.

— Дзе ж я выплачу...

Язэпіха сціхла, устала з лаўкі:

— То я пайду, Трахім.

— Ідзі і не гаруй — нагаравалася ж ужо...

Яна памалу пасоўгала нагамі далей на вёску. На вуліцу з-за платоў пазвешвалі голле сады. Як расы, было на ім вішань і сліў, свяціліся ў лісці яблыкі, рэпехам віселі чырвоныя грушы. Густа гулі пчолы, пазлепвалі сабою ў вуллях лёткі. Язэпіха глядзела за платы і зайздросціла людзям — там дзе мужчыны, там і сядавіна, і пчолы.

Падышла да селішча Савы Федарэнчыка. Федарэнчыкі ставілі новую хату. Сыну—ажаніўся. Са смаловых, хораша абчэсаных бярвенняў, якія ўжо ляжалі ў сценах, выступала смала. На зрубе стаялі кроквы, а на шчытку адной была прыбіта ёлачка — знак таго, што цесляры ўжо зрабілі сваю работу і выпілі магарыч. Смачна пахла трэскамі, што ляжалі пад светлымі сценамі. Бацька з сынам прыганялі да вушакоў рамы. Былі яны абодва ў майках, зацярушаныя тырсаю. Анюта, жонка Савы, клала на бярэмя трэскі — збіралася, няйначай, варыць мужчынам абед. Марыля, яе нявестка, сядзела на калодцы і дзяржала на руках сына.

— Бог у помач! — Язэпіха спынілася ў варотах. — Яшчэ даху няма, а ўжо рамы ставіце?

Анюта перастала збіраць трэскі:

— Няможна шыферу дастаць. Пазаўчора прывезлі былі ў раён, ды нам не перапала — разабралі. У канторы сказалі, каб пачакалі трохі...

— Дастанеце чым накрыць, — сказала Язэпіха. — Хату паставіце, улазіны зробіце і будзеце жыць, каб толькі ціха на свеце было...

— Жылы павырываем, пакуль яго ўселім. Усе грошы аддалі на зруб. Вялікія дзеці — вялікі клопат, — жалілася Анюта.

— Не вельмі прытварайся. Шчаслівая — Сцёпку свайго жаніла. Хораша жывяце. Унукаў нажыла, каб ціха было...

— Можа яно і так, — Анюта ўзяла яшчэ трохі трэсак на бярэмя і пайшла паліць у печы.

— Прыходзьце, бабуля, па трэскі. Нам яны не трэба — шчэ леташнія дровы ляжаць, — высунуў з акна зруба галаву і крыкнуў Язэпісе Сцёпка.

— Прыйду, дзеткі, прыйду... І багата іх браць?

— Хоць цэлы воз.

Яна ўздыхнула і адышла ад Федарэнчыкавых варот. Завярнула ў вулку, бо трэба было яшчэ адведаць пляменніцу. Жыла яна ад Федарэнчыкаў недалёка — цераз пяць хат. Вулка была мурожная, зялёная, і соткі ў людзей былі добрыя. На агародах аж буяла бульба, з загонаў расплываўся, у разору, як цеста з дзяжы, гуркоўнік, шумелі лісцем кіяхі, стаялі, апусціўшы галовы, сланечнікі. Хата пляменніцы стаяла воддаль ад вулкі і ісці да яе трэба было гародамі. На сярэдзіне разоры Язэпіха спынілася, нагнулася, пакарпала пальцам пад карчом бульбы — з зямлі вывалілася ружовая картопліна.

Падышла Язэпіха да хаты і ўбачыла пляменніцу. Соня сядзела на ганку і абірала лісіцы. Брала іх з кошаля, абдувала, адразала карэньчыкі і кідала ў міску. Калі-нікалі ў яе рукі пападалі і сыраежкі.

— Урадзіла ў вас картопля. — Язэпіха ступіла на ганак.

— На свіным гнаі садзілі, цётка. Сядайце. Вунь там, на сонечыку.

Старая села, абцягнула на сабе андарак.

— Пасля дажджу лісіцы з зямлі сталі вылазіць. Адскочыла ранкам у лес і трохі назбірала на смажанне. Вы не хадзілі? — спытала Соня.

— Куды мне... Вочы нічога не бачаць. І твой Міхайла ў калгас пайшоў?

— Пайшоў. Усе пайшлі ж.

— Прысылаюць пісьмы хлопцы?

— Каб яны пазахлопваліся, калі раджала. Душу вынялі. Гадавала, начэй недасыпала; вучыла і на табе — парадавалі матку. У большага, што на заводзе, не галава, а матыліца: абкруціла, абвяла баба. На дзесяць гадоў старэйшая. Узяў яе з двума дзяцьмі. І хто мог падумаць?! Малады, здаровы. Напаіла, пераспала з ім, зноў дала гарэлкі і п'янага — у загс. Зглуміла хлопцу жытку, каб трасца ёй. А другі, думаеце, разумнейшы? Вучыўся ў цехнікуме. І ні з таго, ні з сяго ўздрочыўся—кінуў. Піша: так, маўляў, і так, матка і бацька, вучоба мне не па нутру, буду матросам. Прышліце грошай... Сулімы яму, а не грошай. Ні капеечкі не пашлю. У другіх дзеці як дзеці, а ў мяне...

— Чаго табе, Соня, нудзіцца. Усё добра будзе. Хай бы тваё гора мне было, толькі каб хлопцы былі жывыя. Каб ціха было...

Трэба было ўжо ісці дахаты і Язэпіха выйшла з двара.

Павятрэла. Густа шамацеў кіяшнік на агародах, хісталіся галовы ў сланечнікаў. Вецер гнаў па вуліцы курэй, раздумаў на іх пер'е, задзіраў хвасты. Яны беглі ў двары. За вёскай падымалася, распухала хмара. Язэпіха пайшла спарней, бо трэба было зняць з плоту, каб не намачыў дождж, посцілкі. Калі ішла ля Трахімавага двара, убачыла, што старога на лаўцы не было. Чутно было толькі, як ён кішкаў за хатай на курэй. Праўнукі ж, Валодзік і Верка, шчабяталі ля варот — новую гульню сабе прыдумалі.

Яна, меньшанькая:

— Я буду Язэпіха, а ты дзед.

Ён:

— Добра.

Дзяўчынка пахістала ў бакі, як старая, галавою:

— Сынкі мае загінулі, каб на свеце ціха было.

А Валодзік:

— Не гаруй, баба, каб ціха... на свеце...

Верачка яго перабіла:

— Гэта мне трэба казаць: «Каб на свеце ціха было»

Хлопчык надзьмуўся:

— Я забыўся.

— Давай зноў.

Язэпіха пачула, што гаварылі дзеці, і нічога не сказала — хай гуляюць малыя. Вецер туга біў у грудзі і ісці было па пяску цяжка — раз'язджаліся ногі, заблытваўся ў нагах андарак. А вось і яе хатка з ігрушаю-дзічкаю над акном. Яна ўвайшла ў свой двор.

*ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ*



С. АНДРУХОВІЧ. Янка Купала. Масла.



С. АНДРУХОВІЧ. Лукомльскае возера. Масла.

# ПРАГА ЗВОНКІХ ФАРБАЎ

ПАМЯТАЮ добра спякотны ліпень 1947 года. Мінск яшчэ толькі пачынаў адбудоўвацца. Я вучыўся тады ў Абрама Іосіфавіча Кроля. Заняткі праводзіліся на другім паверсе ўцалелага ад вайны будынка Дома прафсаюзаў.

І вось аднойчы заходжу ў нашу майстэрню. За мальбертам—высокі, хударлявы, з блакітнымі вачыма і прыемнымі рысамі твару чалавек у выцвілай салдацкай форме, у ботах з пацёртымі юхтавымі халявамі. На правым рукаве гімнасцёркі — акуратная цыроўка. Гэта быў дагэтуль незнаёмы мне мастак Сцяпан Адамавіч Андруховіч.

З таго часу я ўважліва сачу за яго творчасцю. Гэта жывапісец, выхаваны на трывалых традыцыях рэалістычнага мастацтва. Ураджэнец вёскі Губіна на Уздзеншчыне, выхаванец Віцебскага мастацкага тэхнікума, пасля сканчэння якога (1930 г.) некаторы час выкладаў маляванне ў школе Астрашыцкага Гарадка. Адначасова стала займаўся творчасцю. Яго першая карціна, напісаная ў канцы 30-х гадоў, была на тэму грамадзянскай вайны—«Арышт бальшавікоў». Цяпер яна—уласнасць Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.

І вось сёння мастак трымае адказную справаздачу перад гледачамі—у салоне Саюза мастакоў БССР экспануецца выстаўка твораў Сцяпана Адамавіча Андруховіча з нагоды яго 60-годдзя.

Работы, паказаныя на гэтай выстаўцы, хвалююць, выклікаюць на роздум. Жывапісную палітру мастаку быццам падказвае сама родная прырода. Эмацыянальны лад карцін і эцюдаў грунтуецца на разнастайных жыццёвых уражаннях. Пранікнёныя па настроі яго пейзажы, у якіх — хараство сённяшняй Беларусі. Тут эмацыянальныя, насычаныя колеры, выразная кампазіцыя.

Сцяпан Адамавіч расказваў аднойчы, як у гады вучобы ў Уздзенскай сямігодцы, нягледзячы на некалькі гадоў розніцы ва ўзросце, моцна сябраваў з Паўлюком Трусам. Разам хадзілі са школы і ў школу. А ў цёмныя восеньскія вечары або калі зімовыя сумёты накрывалі дарогі — абодва нярэдка начавалі ў настаўніцкай. Любіў слухаць Андруховіч вершы свайго старэйшага сябра. А бывала, і Паўлюк браўся за аловак, каб маляваць. Прыгадваючы гэтыя спробы Паўлюка Труса, С. Андруховіч сцвярджае, што з яго мог бы атрымацца цудоўны мастак...

Мабыць, іменна гэтым сяброўствам вызначана ў творчасці С. Андруховіча нешта істотнае. Першы за ўсё—прагнае імкненне да звонкіх, чыстых фарбаў. Нездарма ў яго пейзажах пераканальна перададзена любая пара года.

Добрыя пейзажы «Мінскае мора», «Восень», «Коні», «Лета», «Дажджлівы дзень».

Прываблівае пейзаж «Лес». Гонкія сосны чырвона-жоўтымі верхавінамі-каронамі цягнуцца да неба. Здаецца, адчуваеш водар жывіцы, настоены на кветках і травах...

Мастак любіць чалавека працы. Героі многіх яго палотнаў — сельскія працаўнікі.

«Пасляваенная сяўба», «Калгасны статак», «Малацьба», «Гутарка агітатара»—быццам старонкі своеасаблівага летапісу разнастайнага жыцця беларускай калгаснай вёскі.

Піша Сцяпан Адамавіч і партрэты. Лепшыя з іх—«Янка Купала» (канец 50-х гадоў), «Леначка», «Герой Сацыялістычнай Працы Я. В. Бандак», «Жаночы партрэт».

Любіць мастак паездкі па рэспубліцы, у часе якіх шмат працуе. У 1966—1968 гадах Сцяпан Адамавіч стварыў шэраг твораў аб будаўніцтве Лукомльскай ГРЭС. Гэтыя невялікія эцюды напісаны з добрым настроем, непасрэдна. У іх адчувальны пульс сучаснага будаўніцтва. Прыгадаю, напрыклад, кампазіцыі «Пасёлак Піянерскі», «Растворны вузел», «У кар'еры».

Творчы шлях мастака—багаты. Не ўсё аднолькава раўнацэннае ў яго творчасці. Бывае, работу губіць нічым не апраўданая стракатасць. Бывае, занадта ўжо заглушае ўсё ў рабоце мінор...

Але персанальную выстаўку твораў мастака пакідаеш з ясным усведамленнем: Сцяпану Андруховічу ёсць аб чым сказаць гледачу. Яго слова натхнёнага лірыка даходзіць да кожнага.

Уладзімір МІСУН.



# ЛЕГЕНДЫ СТАРОГА ЛОСКА

Леанід ПРАКОПЧЫК



ЛОСКАЕ ЗАМЧЫШЧА — гэта штучна насыпаная гара з круглай пляцоўкай на вяршыні. Яму не менш чым шэсцьсот гадоў. Ужо ў першых пісьмовых крыніцах, якія адносяцца да XIV стагоддзя, пра Лоск гаворыцца як пра вядомае, добра ўмацаванае паселішча. А з другой паловы пятнаццатага стагоддзя, як адзначаюць гісторыкі, Лоскі ўзгорак ужо вянчала карона з зубчастых сцен з байніцамі і вежамі.

З 1494 года Лоскім замкам валодаюць Кішкі. Спачатку Пётра Кішка — полацкі ваявода, потым яго брат — Ян Кішка, кашталян Віленскі, не менш вядомы ў межах Літвы і Беларусі як заўзяты прыхільнік і прапагандыст рэфармацыі. Гэта тут, за надзейнымі сценамі Лоскага замка, у баку ад вялікіх гарадоў, Ян Кішка ў 1570 годзе заснаваў друкарню з адзінай мэтай — друкаваць кнігі рэфармацкага зместу, якія крытыкуюць каноны і догмы афіцыйнай царквы.

Прыблізна з гэтага часу ў гісторыю Лоска ўпісваецца і імя Сымона Буднага — выдатнага беларускага філосафа-гуманіста і пісьменніка. Пра самога Буднага нам вядома нямногае, але гады, пражытыя ім у Лоску, памятныя найбольш выдатнымі працамі, якія ён і напісаў тут, і надрукаваў у Лоскай друкарні. Праўда, пасля таго, як у 1582 годзе на саборы ў Луклавіцах духавенства пад пагрозай суровага пакарання канчаткова забараніла Буднаму займацца прапагандай рэфармацкіх ідэй, весткі аб яго дзейнасці абрываюцца. Мяркуюць, што і апошнія гады жыцця Сымон Будны правёў у Лоску і памёр тут у канцы XVI стагоддзя.

І сёння творы Буднага здзіўляюць шырынёю і смеласцю думкі. Ведаючы некалькі еўрапейскіх моў, ён пісаў на мове, блізкай да народнай, гутарковай, і на гэтую мову перакладаў з латыні, з англійскай і французскай.

Сюды ж, у Лоск, нярэдка наведваліся да Буднага яго аднадумцы, таксама пісьменнікі-асветнікі — Мартын Чаховіч і Васіль Цяпінскі, заязджалі вучоныя з Англіі і Германіі. Яны чыталі і абмяркоўвалі тут кнігі, якія яшчэ пры жыцці іх аўтара былі забаронены царкоўнікамі. Іх, гэтыя кнігі, не ўсе знішчылі. Некалькі экземпляраў з паметкамі «выдадзена ў Лоску» і сёння захоўваюцца ў вядомых бібліятэках свету.

ЛОСК... Авеянае легендамі, старажытнае сяло цэнтральнай Беларусі. Як яно прызыўна вабіла мяне, як настойліва клікала!.. І вось, нарэшце, я ў Лоску...

Па цэнтры пагорка праходзіць галоўная, брукаваная вуліца, паабапал яе ціснуцца дамы. У канцы сяла, сярод буйных клёнаў, стаіць невялікая цэркаўка. На гэтай жа вуліцы ў цэнтры сяла — драўляны касцёл. Але самая вялікая выдатнасць сяла — трыццаціметравая замкавая гара. Выраўнены на яе вяршыні пляц і зараз нагадвае сабою зрэз, старанна расчышчаны і размераны пад будаўнічую пляцоўку. Такое ўражанне складваецца ад самой гары: яна правільнай авальнай формы, яе ўмацаваныя, крутыя адхоны — добрая апора для магутных сцен і высокіх пабудоў.

Гэта — здалёку, гэта — першае ўражанне ад круглай зялёнай гары, з якой пачынаюцца, у якую ўпіраюцца і вуліца, і ўсе навакольныя дарогі.

Згодна з адным са старых паданняў сцены Лоскага замка-крэпасці клалі не з цэглы або прывазнога граніту, а з валуноў і камення, якіх багата было калісьці на лоскіх палях. Але муры гэтыя заклалі шырынёй у сем крокаў, і хутка на адзін толькі падмурак, апушчаны на многа метраў углыб гары, пайшлі ледзь не ўсе сабраныя на палях камяні. Вось тады і быў выдадзены строгі загад: не ўпускаць у Лоск ні пешага, ні коннага без камянёў. Коннаму — не менш тузіна камянёў прывезці на возе, пешаму — хоць адзін, замест пропуска, і здаваць яго за варотамі варце.

Калі камянёў набралася цэлыя горы, іх рассартавалі на памерах, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены. У ніжні, першы рад, паклалі самыя вялікія валуны і ўсе чорнага колеру. Далей пайшлі пласты сініх, за імі — шэрых, карычневых валуноў... І чым вышэй уздымаліся сцены, тым яны станавіліся ўсё святлейшыя, усё ярчэйшыя. А самыя апошнія метры сцяны, і ўсе зубцы на ёй, і вежы былі складзены з камянёў толькі жоўтых і чырвоных адценняў.

Калі ў сцяну замуравалі апошні чырвоны камень і дождж адмыў высокія сцены ад пяску і гліны, убачылі жыхары Лоска, што зубцы і вежы нібы залівае чырвонае зарыва, хоць неба і было зацягнута воблакамі.

Вось так, здзіўляючы гасцей і палохаючы ворагаў, над Лоскам у любое надвор'е гарэла, выкладзенае з рознакаляровых камянёў зарыва...

На пабудову Лоскага замка людзі сабралі каменне з палёў і лясоў на сто вёрст вакол. І таму, хто задумваў паставіць печ або закласці пад дом каменны падмурак, нічога іншага не заставалася, як купляць у каго-небудзь камяні па дарагой цане або ехаць па іх ажно пад Вільню. Пакутавалі з-за гэтага людзі цэлыя стагоддзі, пакуль не пачалі трэскацца і рассыпацца сцены старога замка. Вось тады і пайшла пагалоска, што каціліся з Лоскага ўзгорка камяні да таго часу, пакуль зноў не трапілі на тое самае месца, адкуль іх калісьці прывезлі ў Лоск...

ДАРОГА, што вядзе на замчышча, цяпер пачынаецца не з Татарскай горкі, дзе ў часы Буднага на ланцугах спускалі пад'ёмны мост, а з супрацьлеглага, паўночнага боку, ад крывуліны сельскай вуліцы. Узнімаецца вузкая дарога, агінаючы ўзгорак па ходу сонца, па дузе, і нібы не вельмі крута. Але пакуль узбярэшся, дык пачынаеш сапці, як кавальскі мех. І прыходзіш проста ў двор да цёткі Просі. Тут, на замчышчы, ёсць яшчэ і другая хата, яе дзевера, нейкае гумно і хлеўчукі, ссунутыя да абрыву. Улетку сюды часта заходзяць турысты, звычайна школьнікі з настаўнікамі. Цётка Прося рада гасцям. Свае дзеці павырасталі і разляцеліся, як птушкі з гнязда. Настаўнікі ветліва просяць паказаць што-небудзь з таго, што засталося ад замка...

І цётка выносіць з каморы на такія выпадкі прыхаваны кош з асколкамі каляровай і фігурнай кафлі, глінянага і шклянога посуду, кавалачкаў шлаку. Кош з гэтымі сувенірамі ставіць на ганак: бярыце, хай будзе хоць якая памяць аб Лоскім замчышчы. Ставіць і ў каторы раз дзівіцца сама сабе:

— І адкуль толькі яны бяруцца! Пяцьдзесят гадоў арэм гэтае самае замчышча і кожны раз кош, а то і два-тры назбіраем...

Зямля на замчышчы сіне-чорная, — гэта кідаецца ў вочы. А цётка Прося спакойна тлумачыць, што тут быў калісьці горад, аб чым і ў кніжках напісана, а яшчэ друкарня працавала, дык гэта ад попелу і вугалю: сотні гадоў паліліся тут печы. Калі бульба ўжо выкапана, дык цётка Прося праўдзе і пакажа тое месца, дзе вытыркаецца з-пад глебы маставая з плоскіх цаглін, сцэментаваных так, што і лом іх не бярэ. Захавалася тут на краі абрыву і частка крапаснoй сцяны. Праўда, не так сцяны, як падмурка.

Не цяжка ўявіць і сёння, што за гэтымі старажытнымі замкавымі сценамі заставалася на Лоскай гары вельмі мала карыснай плошчы, пляцоўка, даўжынёю метраў дзвесце. І вось на гэтых метрах, акружаных сценамі, трэба было пабудаваць палац з прыёмнымі заламі, трапезнай, пакоямі для адпачынку. Тут жа трэба было размясціць і дзесяткі самых розных дапаможных памяшканняў: кладоўкі, сховішчы для прадуктаў і зброі, для гасцей і чэлядзі пабудаваць асобныя памяшканні, для воінаў і варты — казармы, для коней — канюшні. Цесната вымушала грувасціць паверх на паверх, а ўніз паглыбляць, пашыраць скляпы.

Недзе тут, можа вунь у тым, паўднёвым кутку, дзе выяўлены рэшткі старажытнага падмурка і дзе некалі з высокай дазорнай вежы адкрываўся від на раку Бярозу, і быў кабінет-келля Сымона Буднага.

Былі, вядома, у старажытным замку і раскошныя залы, увешаныя зброяй і паляўнічымі трафеямі. Крута ўздымаліся парадныя лесвіцы і калідоры, але недзе па вузкім, цёмным праёме спускалася і другая, патайная лесвіца, якая магчыма прама з келлі вучонага вяла ў склеп, дзе стаяў друкарскі станок.

ПАКАЗАЦЬ, дзе канкрэтна размяшчалася чатыры стагоддзі назад друкарня, цяжка. Але затое ўдалося ўдакладніць больш важнае: якія кнігі былі тут выдадзены.

У мясцовай школе ёсць археалагічны куток, у ім поўна чарапкоў, кафлі, манет з замчышча, шмат копій навуковых артыкулаў, пісьмаў, дакументаў, матэрыялаў, якія датычаць Лоска, замчышча і, вядома, Сымона Буднага.

Гэты адзіны ў сваім родзе музей Буднага існуе дзякуючы перш за ўсё намаганням Васіля Дарафеевіча Канановіча, настаўніка гісторыі, неўтаймоўнага збіральніка і даследчыка ўсіх матэрыялаў, якія датычаць мінулага Лоска і дзейнасці Буднага. Пяру Васіля Дарафеевіча належыць не адзін артыкул аб гісторыі Лоска, аб новых знаходках, звестках, здабытых яго гурткоўцамі. Але ўсё-такі ні з чым не параўнаеш яго своеасаблівыя лекцыі-імправізацыі пра Лоск. Я слухаў яго і разглядаў вучнёўскія акварэлі, замалёўкі з натуры, але часцей — імправізацыі, фантазіі на гістарычныя тэмы — ілюстрацыі да яго расказу. На малюнках і пад'езды да сяла, і сённяшні выгляд замчышча, і Лоскі замак, і друкарня, і сярэдневяковы друкарскі станок, і нават... «копія» з партрэта Сымона Буднага, хоць арыгінала пакуль няма.

Адзін з апошніх, здабытых Канановічам дакументаў, — нанава правераны, удакладнены спіс кніг, выдадзеных Будным у Лоску. Спіс пераслаў у Лоскую школу дырэктар бібліятэкі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве Станіслаў Гжэчук. Гэта, пераважна, філасофскія трактаты антырэлігійнага напрамку, сярод іх такія працы, як «Супраць хрышчэння дзяцей» (1574 год), «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не ўяўляецца такім жа Богам, як Айцец», (1574 год), «Аб фурыях ці вар'яцтвах французскіх» (1576 год), пераклад памфлета Готмана з тлумачэннямі Буднага аб падзеях Варфаламееўскай ночы. А выдадзена ўсё гэта чатырыста гадоў назад тут, у Лоску! Не дзіўна, што такія кнігі, якія спрабавалі зблізіць хрысціянскія догмы з асновамі розуму, адразу ж траплялі ў індэкс забароненых, іх праклінаалі духоўнікі, знішчалі...

КАЛІ пад'язджаць да Лоска ўначы, дык жаўтаватыя агеньчыкі ў вокнах на замчышчы можна зблытаць з зоркамі, якія запаліліся нізка над гарызонтам. Электрычнасць на замак так і не падвялі, і ў абедзвюх хатах па-старому карыстаюцца газавымі лямпамі. З замчышча заўсёды відаць россып агнёў у Лоску і ў вёсках уздоўж Валожынскага тракта.

Апошні раз узыходзіў я на Лоскае замчышча летась, увосень. Цётка Прося — высокая, мажная, рухавая для сваіх сямідзесяці гадоў, сустрэла мяне ветліва. Ужо цямнела, і яна адразу правяла мяне ў святліцу. Гаварылі з ёю, а яна ўсё паглядала ў акно, чакала з поля карову. І раптам устала і ўнесла з сенцаў вялікі кош. Я ўжо думаў, што сувеніры. Але кош быў на гэты раз поўны ляжалых груш-куранак. Куранкі гэтыя крыху большыя і мякчэйшыя за дзічкі, к восені наліваюцца духмяным, крыху даўкім сокам.

— Вось, пакаштуйце нашага ўраджаю, — сказала цётка, ставячы кош на лаву. — Не ведаем, што з імі рабіць: кожны год столькі родзіць, што збіраць не ўпраўляюся. Палавіна іх так і прападае.

Я і раней заўважыў, а цяпер цётка Прося пацвердзіла, што ў іх на замчышчы больш ніякія пладовыя дрэвы не прыжываюцца. А вось грушы — з пакручастымі, вузлаватымі стваламі — растуць: і ў садку, і над кручамі, — пасяліся самі. Два гатункі ёсць — раннія і цвёрдыя, асеннія, якія могуць доўга захоўвацца.

Апрача груш, яшчэ ёсць на гары некалькі кустоў бэзу і бружмелю, якія разрасліся зусім ужо не на месцы, паміж хлявамі, і нізкарослыя каравыя бярозкі на схілах. Больш ні адно дрэва не можа ўзняцца: прыціскаюць вятры, зразаюць гурбы снегу, якія спаўзаюць з круч, вясной падмывае вада.

З сярэднявечча, калі Лоск інакш не называлі, як горадам, захавалася і своеасаблівае дзяленне і назва яго жыхароў: людзі рынкавыя, з Татарскай горкі, з падзамачча і — замкавыя. Хоць тыя, хто жыў на замчышчы, даўно ўжо не адрозніваліся ад астатніх сялян ні багаццем, ні знатнасцю і нават цярпелі нязручнасці — пад'езды дрэнныя, вада толькі ўнізе, пад кручай, аднак выйсці замуж на замчышча па традыцыі лічылася ў Лоску ганаровым. Цётка Прося, тады васемнаццацігадовая, гнуткая і стройная дзяўчына, з густымі косамі-змеямі за плячыма, прыйшла на замак з цеснага двара і небагатай хаты, якая стаяла пасярэдзіне былого рынка.

Ёсць на замкавай гары, апрача дарогі, што ідзе па крузе, і крутая, шырынёю са ступак, сцяжынка. Яна вядзе напрасткі ўніз, ледзь не адвесна, да самага падножжа гары, да цэментнага калодзежнага круга, укапанага да палавіны ў зямлю. З гэтага круга выбіваецца, бяжыць крынічка, і два-тры разы на дзень цётка Прося спускаецца і падымаецца па гэтай сцяжынцы з каромыслам на плячах. Памятае цётка Прося, як яна ледзь не бягом, прытанцоўваючы, спускалася па гэтай самай сцяжынцы і потым без

адпачынку да самага двара несла поўныя вёдры, пагойдваючы іх на каромысле.

— Іду, бывала, наверх, — успамінае цётка Прося, — і прыглядаюся да пражылкаў гліны пад нагамі, да дробненькага пяску, намытага дажджом на сцяжынку. І часта за працу сваю тут жа ўзнагароду атрымлівала: то знайду медны або і сярэбраны грошык, то прыгожы аскялепак посуду, то пацерку шкляную або пачарнелы ад часу ключык... Усялякае здаралася! А цяпер, — уздыхае цётка Прося, — дык ні грошыкаў, ні пацерак не дорыць мне сцяжынка.

У сенцах у цёткі заўсёды стаяць два поўныя вядры вады. Гэта запас. Трэцяе, што на расходзе, вісіць на драцяным круку перад печчу. Замкавую ваду каштаваў я і ў першыя прыезды, і зараз. Зачэрпнеш маленькі эмаліраваны кубачак — вада чыстая, блакітнавата-зялёная, вельмі прыемная на смак.

— Праўда, аднойчы здарылася, што памутнела вада ў нашай крыніцы, — расказвае цётка Прося. — А ўсё з-за майго свёкра Сцяпана. Ён панначку незнарок пакрыўдзіў...

Панначка! Як жа, чуў... Таямнічая, няўлоўная — персанаж не адной мясцовай легенды, прычына розных дзівосных выпадкаў і цудаў. Дзе ж ёй і быць, як не на авеяным тайнамі Лоскім замчышчы!..

Характэрна, што цётка Прося ўпамінае пра панначку нібы між іншым, не стараючыся ні здзівіць, ні напалохаць слухача. Гаворыць пра яе звыкла, як пра суседку, з цяжкім характарам якой міжволі даводзіцца мірыцца.

Часы, праўда, змяніліся. Пра панначку з замчышча цяпер амаль нічога новага не чуваць. А раней, яшчэ «на памяці» цёткі Просі, чаго толькі пра яе ні гаварылі! Любы мог тады расказаць, які ў панначкі конь — белы, даўгагрывы, у яблыкі. А ўбачыць яго можна было як настае маладзік, калі ледзь толькі намячаецца рагалік-веташок месяца. У такія ночы панначка і выводзіла на повадзе свайго любімца на крутыя, парослыя травою схілы замкавай гары. Але толькі свісні або кашляні, як тут жа знікаюць і конь, і панначка. А на тым месцы, дзе іх апошні раз бачылі, засталіся два белыя камяні...

Быццам бачылі, як панначка плавала па Лоскіх рэчках — Піжме і Пахамянцы. Сустракалі яе часцей за ўсё закаханыя. Стаяць дзе-небудзь пад вольхамі, мілуюцца і раптам як зацурчыць, зазвініць вада па камянях! Азірнуцца на звон — і ўбачаць: выплывае з белага туману панначка. Не на лодцы — для лодкі мелка, а на праніку, якім бабы палатно пераць. Плыве сабе і валасы расчэсвае. Вочы ў яе нібы заплюшчаны, а сама ўсміхаецца некаму, як у сне, і ўсё кланяецца, кланяецца, ды гэтак па-даўнейшаму, у пояс. Калі хочаш панначку лепш разгледзець, замры, не дыхай. А ўздыхнеш, усё знікне, прападзе панначка за кустамі...

— А вось муж казаў, ды гэта ж і са свёкрам у маладосці здарылася... Бытта сабраўся ён спаць у пуні... Зірк — а панначка і стаіць, падпірае плечуком вароты, нібы чакае кагосьці. Валасы залатым абручыкам схоплены, сукенка на ёй пышная, белая, на падвянечную падобна. Замёр чалавек на месцы.. А панначка яшчэ крыху пастаяла, паглядзела... Вочы сумныя, сумныя! І раптам прапала!.. У такія ночы доўга яшчэ чуваць, як яна ходзіць пад сценамі пуні і ціхенька ўздыхае.

— А як жа было з той крыніцай, што вада памутнела? — напамінаю я цётцы Просі.

— А так усё, галубок, было... Мо бачыў пасярэдзіне садка на замчышчы ўпадзіну? Яшчэ пры свёкры там быў калодзеж. Не такі, са зрубам, якія ў вёсцы капаюць, а глыбачэнны, выкладзены па крузе чэсанымі, абымшэлымі каменнямі...

Голас цёткі Просі журчыць, як тая крынічка пад гарою. І мне здаецца, што я ўвачавідкі бачу тую глыбокую шахту-калодзеж, са сценак якога павыязджалі, сышліся, як зубы, камяні. Даўно ўжо ніхто з гэтага калодзежа не браў вады. А калодзеж быў якраз пасярэдзіне двара— от і надумаўся свёкар засыпаць яго. Закаціў некалькі валуноў, накідаў карчоў, рознага хламу і прысыпаў зверху пяском. Закончыў свёкар сваю работу перад заходам сонца, а раніцай у крыніцы пад замчышчам і сапсавалася вада...

Тыдзень хадзіў свёкар хмуры, ні з кім нават гаварыць не хацеў. Потым аднойчы пакінуў усіх хлопцаў дома, сказаў— работа ёсць. Прынёс доўгія лейцы, адным канцом абвязаў сябе, другі аддаў ім і загадаў моцна трымаць. Так, абвязаны, увесь дзень і раскопваў, выцягваў са старога калодзежа смецце ды каменне. Нарэшце адкрылася ў яго пад нагамі вузкая шчыліна і пацягнула з яе халадком. Кінулі яшчэ для пробы ў шахту каменьчык. Доўга перастукваў ён недзе ў глыбіні па каменнях, пакуль не плюхнуўся ў ваду... А праз ноч зазвінела, заспявала па крынічных каменнях чыстая, празрыстая, як сляза, вадзіца.

— Расказваў свёкар, як з'явілася яму ў сне панначка, — суча нітку расказу Прося. — Бытта ўселася яна ў нагах і прасіла раскапаць стары калодзеж. Хацеў рукой ён паварушыць — і не мог, паспрабаваў галаву падняць — а яна як свінцом наліта. Ляжаў, абліваўся гарачым потам. А панначка глядзела, глядзела на яго сумна і раптам склала рукі на падале ды як заплача! Ціхенька так, ні зыку, адны слёзы, як макавінкі, на падол сыплюцца. Шкада стала свёкру панначкі, сабраўся ён з духам. «Што здарылася, чаго ты так засмуцілася?» — пытае. І гаворыць дзяўчына, што было ў яе адно-адзінае акенца, праз якое яна на волю, на сіняе неба глядзела, а цяпер закрылі яго, засыпалі ёй вочы пяском, таму і слёз яна тыдзень ужо спыніць не можа. Сказала ўсё — і прапала, адно ветрык па хаце прайшоўся... І толькі потым ён здагадаўся, аб якім ваконцы гаварыла панначка...

ХАРАКТЭРНА, што ва ўсіх расказах панначка заўсёды аднаго характару — баязлівая і сумная. Нейкая звычайная, жыццёвая мудрасць дазваляе рабіць ёй толькі зусім бяскрыўдныя ўчынкі.

Ці існаваў прататып гэтай журботнай панначкі ў жыцці? Усё можа быць... Пацверджаннем такой версіі застаецца яшчэ адна легенда пра панначку — легенда пра вернае каханне і трагічную смерць. Яна, відаць, адна з першых легенд пра лоскую панначку, з яе і саткаўся ў народзе ўвесь гэты маляўнічы ўзор з легенд і казак...

Жыла калісьці за сценамі Лоскага замка прыгажуня дзяўчына з залатой касой. Прыехаў аднойчы ў замак пагасціць статны і прыгожы юнак, пакахаў прыгажуню. Нішто, здавалася, не магло перашкодзіць іх шчасцю. Быў ужо і дзень вяселля прызначаны, але тут пачалася вайна. І давялося юнаку ўзяць меч і ваенныя даспехі і з усімі разам пайсці ваяваць. Перамаглі яны ворагаў, прагналі са сваёй зямлі, але не паспеў малады воін даехаць да Лоска, як зноў напалі на іх зямлю ворагі і зноў давялося яму выпраўляцца ў паход. Вадзіў храбры воін ужо цэлае войска, і змагаліся яны то ў далёкіх гарах, то ля самага сіняга мора. Цэлых семнаццаць гадоў... Але не забыў ён сваю прыгажуню-панначку, і яна таксама засталася вернай клятве: усе семнаццаць гадоў чакала толькі яго. І настаў, нарэшце, дзень, і гучна заспявалі трубы, і ў двор Лоскага замка ўехаў на баявым кані праслаўлены воін...

Бягом узбег ён у высокую вежу, дзе былі пакоі панначкі, адчыніў дзверы і замёр: насустрач яму з верацяном у руках устала незнаёмая сівая жанчына і, усміхаючыся, нізка пакланілася.

Аслупянеў воін, адступіў назад, хоць і пазнаў усмешку панначкі.

— Заходзь, гэта ж я, твая нявеста! — паклікала яго жанчына.

Не зрабіў воін і кроку... А панначка падбегла да акна і кінулася ўніз...

Апамятаўся воін, сарваў з сябе меч, пабег уніз па лесвіцах. Упаў на двары на калені над распасцёртай панначкай і раптам убачыў, што ляжыць перад ім усё тая ж маладая прыгожая дзяўчына, і толькі яе тонкую шыю абвівае не залатая, а белая, як снег, каса...

Ці ведаў, ці чуў хоць раз гэту старую легенду Сымон Будны? Чалавек адукаваны, кніжны, ён ведаў, любіў і народную гутарковую мову, не мог ён не слухаць, не палюбіць паэтычныя народныя казкі і легенды.

Мне ўяўляецца, як пасля дыспуту або дружалюбнай гутаркі Будны вёў свайго госця па крутой, лесвіцы ў самыя верхнія пакоі дазорнай вежы, адкуль так часта любаваўся маляўнічым краявідам, глядзеў на шматкі палёў на крутых схілах узгоркаў, на сіні лес з шапкай велікана-дуба, на вулічкі Лоска, уздоўж якіх цесна збіліся шэрыя хаткі... І абавязкова паказваў ён госцю акно, з якога кінулася ўніз панначка.

А можа для Буднага і яго сучаснікаў трагічна загінуўшая панначка зусім і не была абагульненым, адцягненым вобразам? Можа называў ён яе поўным імем, як і воіна, што праславіўся сваёй храбрасцю ў многіх бітвах?

ЯК МНЕ ХОЧАЦЦА зноў пабываць у Лоску!

Дарогі да Лоска, то агінаючы, то праразаючы ўзгоркі, ідуць па чыстых палях — лясоў паблізу няма, яны звedзены тут даўно. Ідуць у Лоск дарогі, якія глыбока ўрэзаліся за доўгія стагоддзі ў зямлю, — падатлівую, урадлівую, таму што апрацоўваецца, арэцца яна пад Лоскам ужо тысячагоддзямі... А па абочынах дарог ляжаць валуны — шэрыя, абымшэлыя, быццам брыдуць сагнутыя ў тры пагібелі старажытныя падарожнікі на паклон да святыні...

Валожынскі раён.

# *Паэтычная* паверка

## Вольга ІПАТАВА



### СОН-ТРАВА

Дзесьці за сінімі далямі,
Ісці не год і не два,
Цвіце для мяне жаданая,
Казачная сон-трава.

Нібы прываротнае зелле,
Яна—ад усіх трывог.
О, хай мне бяду засцеле
На кожнай з маіх дарог!

Не можаш, трава-чараўніца?
Тады мне сэрца ссушы,
Каб стала спакойна біцца,
Мне—каб спакойна жыць,

Каб погляд мяшчанства
зайздросны
Маю не схіляў галаву,
Каб я не шукала па свеце
Казачную сон-траву...

●

Мой сын—мая найлепшая кар'ера,
Маё сумленне, радасць, вечны
страх...
Я да любога б стаць магла
бар'еру,
Бо у мяне—маленькі на руках.

Штогод жывём святлей. І ўсё ж
змагацца
Нам трэба супраць подласці й
цяпер.
Расце мой сын. Ці стане ён
ірвацца
За гэты, мной пакінуты бар'ер?



●

Лёс мой, лёс мой!—цяжкі колас,
Часам — цяжкі камень...
Мне люляць цябе да скону
Кволымі рукамі.
Мне з табою—быць сам-насам,
І нясці у людзі
То ў кароне промняў ясных,
То ў пчаліным гудзе,
То шукаць табе ратунку
Ад навалы чорнай...
Час падлічвае рахункі,
Мелюць часу жорны.
Думкі, крокі... Гнеў і радасць...
Будзе хлеб ці ўдалы?
Не скрывіць душой ні разу,—
Многа то ці мала?
І любіць да сэрца болю,
Як матулін голас,
Беларусь — і сонца й долю!
...Лёс мой, цяжкі колас!

## Ніна МАЦЯШ

●

«Раскуй сябе!—гаворыш ты.
—Дай волю ўсім сваім пачуццям!»
А людзі прагнуць дабраты,
Пяшчоту хочацца адчуць ім.

І спавядаюцца яны,
І цёплай спогадзі чакаюць.
І нічыёй няма віны,
Што пра сябе—пры іх змаўкаю.

Я проста ўведала даўно,
Што неяк спраўлюся з сабою.

Калі ж хоць трошкі мне дано
Кагосьці абагрэць любоўю,
Усмешкай, словам у пару,
Ці хоць спагадлівым маўчаннем,—
Ад сэрца гэта ім дару,
І тут — маё выратаванне!

І сілай робіцца тады
Душы пакутнае бяссілле.
«Раскуй сябе»,—гаворыш ты.

## Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА



●

Падарыць табе рэчку з жоўтым
дном,
Мурожным берагам, блакітным
дахам,
Кустом лазовым і звонкім птахам,
Ліпнёвым, сонечным, духмяным
днём?

Навокал рэчкі — спакой ляны.
На даляглядзе—цвітуць ільны,
З другога краю—натоўп дубоў.
Каму—маўчанне, каму—любоў.
Табе прыношу я клопат толькі.
Табе дарую адны згрызоты.
А з абяцанак ці многа толку?
Яны—мана для душы.
— Ды што ты!

●

Стаіўся перад захадам дзянёк.
На плот усеўся, як сівы дзядок.
Прыжмурыў вочы перад ноччу
яркай.
Зацягваецца дымнаю цыгаркай.

доўгая песня, непаўторная на гукі, фарбы, інтанацыі, багатая на эмацыянальную афарбоўку і змест. Пра што б ні пісаў паэт, на любым творы ляжыць адметны адбітак ягонай асобы. І калі зірнуць на ўсё зробленае мастаком як на адзін цэласны твор, то заўсёды пры жаданні можна выявіць тое істотнае, агульнае, што распарадкавана па ўсіх яго асобных творах і яднае іх.

М. Аўрамчык па характары свайго таленту — паэт лірык. Але ён добра валодае ўменнем надаваць сваёй, нават інтымнай, лірыцы актыўны грамадзянскі змест.

Турманы кружыліся над хатай,
І дзяцінства чарадой гадоў
Праляцела воблакам стракатым
Маладых пярэстых галубоў.

З-за клапот цяпер забыты казкі.
Зараз нам зусім не да прыгод...
На галовах—баявыя каскі,
Кліча ўдаль няведамы паход.
(«Галубы»).

Па вершах, што ўвайшлі ў «Агледзіны», можна прасачыць эвалюцыю лірыкі М. Аўрамчыка, убачыць, як усё цясней і цясней сплятаецца яго ўласнае «я» з праблемамі сучаснасці, як напаўняецца яна экспрэсіяй і эмацыянальнасцю, набываючы інтэлектуальны характар.

Паэзія М. Аўрамчыка, як мы ўжо адзначылі, цесна звязана з яго біяграфіяй, уласным лёсам і сучаснасцю. У мастацтве заўсёды здараюцца дзіўныя рэчы: чым глыбей мастак выяўляе духоўную сутнасць свайго народа, тым вышэй узнімаецца яго творчасць да ўзроўню агульначалавечых здабыткаў культуры. Хочацца пажадаць паэту, каб ён смялей даследаваў самыя шчыльныя пласты народнага жыцця. Паэту верыш, бо бачыш у ім сапраўднага мастака, сумленнага «праходчыка», які нясе ў сваіх натруджаных далонях людзям сапраўдны скарб. Ён не адносіцца да ліку тых, хто, натрапіўшы на «залатую жылу» і дашчэнту вынішчыўшы яе, перагрaбае гадамі «пустую пароду», сам не заўважаючы гэтага. Паэт у пастаянным руху і пошуку. Ён бярэ ад жыцця роўна столькі, колькі патрэбна яму ў дарозе, бо ведае—залішні цяжар стамляе крокі, прытупляе зрок, бо ведае—сытасць прагне спакою, а спакой выраджаецца ў санлівасць. Затое як шчодра надзяляе ён цябе сваім бачаннем свету, як шчыра і пранікнёна можа сказаць пра самае запаветнае і дарагое:

Дарогі, родныя дарогі...
Як байцам пратапталі вас
Прамыя —
у часы трывогі,
Лучыстыя —
ў спакойны час.
. . . . . . . . . .
Тут,
на зямлі шматпакутнай,
каля дарогі кожны схіл
Асветлен зоркай пяцікутнай,
Узнятай на гарбах магіл.
(«Дарогі майго краю»).

У «Агледзіны» паэт уключыў таксама сваю паэму «Волхаўская споведзь» і пераклады з замежных моў і моў братніх рэспублік. «Волхаўская споведзь» заслугоўвае асобнай гаворкі. Зазначым толькі, што яна ўвабрала ў сябе багаты жыццёвы матэрыял, выявіла яшчэ адну каштоўную рысу таленту паэта — яго ўменне будаваць шырокае эпічнае палатно на высокім драматызме, выяўляць сутнасць падзей і характары герояў праз іх унутраны свет.

І ў заключэнне: той, хто прыйдзе на «агледзіны» творчасці М. Аўрамчыка, не пашкадуе, што марна патраціў час.

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.

# ДАРАГОЕ І БЛІЗКАЕ

МЫ НЕ МОЖАМ не адчуваць найвялікшай удзячнасці Янку Брылю, які здолеў пераканаць Заіра Азгура, каб той напісаў «Незабыўнае» — кнігу ўспамінаў пра дарагіх і блізкіх мастаковаму сэрцу людзей і шчырых думак пра надзённае ў мастацтве. Яна выйшла ў свет гадоў восем назад.

Услед за прыгаданай кнігаю з'явіліся апавяданні мастака пра дзяцінства і юнацтва на Віцебшчыне, якія дапаўнялі ўспаміны, а таксама шэраг творчых партрэтаў мастакоў і артыкулы аб надзённых праблемах творчасці.

**І вось нядаўна на паліцах кнігарань з'явілася новая кніга З. Азгура, якая выйшла ў выдавецтве «Изобразительное искусство» ў Маскве, — «Тое, што помніцца...» Аб'ём — 25 аркушаў.**

Не, гэта не перавыданне кнігі «Незабыўнае». Гэта зусім новая кніга, якая ўвабрала ў сябе і «Незабыўнае». Раздзелы з «Незабыўнага» значна перапрацаваны, удакладнены. Па-новаму адрэдагаваны аўтарам апавяданні і артыкулы, якія друкаваліся ў перыёдыцы. Для кнігі напісана шмат зусім новых старонак.

Праз успрыняццё аднаго мастака мы прасочваем вельмі істотныя моманты (я б сказаў — паваротныя моманты ў гісторыі нашага выяўленчага і не толькі выяўленчага) мастацтва за апошнія паўстагоддзя. Гэта мемуары з выразнымі рысамі гістарычнага даследавання, паколькі пра вельмі многае З. Азгуру даводзіцца пісаць упершыню.

Але «Тое, што помніцца...» — не толькі мемуары, не толькі мінулае — далёкае і блізкае. Гэта і наша трапяткая сучаснасць.

З. Азгур — увесь у роздуме аб мастацтве, аб яго мінулым і сёняшнім дні, аб яго будучыні. Ён—палеміст. У яго акрэсленыя пазіцыі рэаліста. Пазіцыі гэтыя выказаны не толькі тымі артыкуламі, раздзеламі, старонкамі кнігі, дзе яны заяўлены, так сказаць, непасрэдна. Ідзе, дапусцім, гаворка пра мастацтва эпохі Адраджэння ў дарожных нататках з Італіі, або пішуцца ўспаміны пра Керзіна ці Манізера, Купалу ці Бядулю, або ўзнікаюць сапраўды паэтычныя і сапраўды непаўторныя, на дзіва каларытныя апавяданні пра ганчара Піліпа Патапенку або пра Рыўку-паэтэсу, пра людзей, з якімі жыццё сутыкнула на самым пачатку шляху ў творчасць, — ва ўсім прама або ўскосна выказваецца творчае крэда. Можна аспрэчваць асобныя ацэнкі і думкі З. Азгура, можна рабіць пэўныя папраўкі на «суб'ектыўны момант» (а дакладней — на досыць-такі магутную творчую індывідуальнасць мастака), але нельга не падзяляць асноўнага: нельга не падзяляць улюбёнасці яго ў творчасць і ў мастацтва, у культуру роднай зямлі, у чым бы гэтая культура ні выяўлялася — у народным разбярстве або ганчарстве, прафесіянальным жывапісе ці мастацкай літаратуры... Нельга не падзяляць той веры ў жыватворнасць рэалізму ў мастацтве, якая —ва ўсіх старонках кнігі. Нельга не быць удзячным за тое, што многія старонкі нашага мастацтва, пра якія мастацтвазнаўцы пішуць сухімі і, мякка кажучы, надзвычай лаканічнымі фармуліроўкамі, пад пяром З. Азгура набылі плоць і кроў, гэтак жа, як пад яго чуйнымі пальцамі і трапяткою стэкай атрымліваюць плоць і кроў многія вобразы сучаснасці і нашага мінулага.

Чытаючы кнігу, увачавідкі пераконваешся, які няпросты быў шлях у мастацтве Заіра Азгура, колькі яму давялося прыкласці намаганняў, колькі зведаць горычы расчараванняў, перш чым удалося стварыць вобразы, вартыя таго народа, сярод якога рос мастак, вартыя тых людзей, якія памагалі — хто добрай парадай, хто таварыскай спрэчкай, хто цярплівым пазіраннем, вартыя таго часу, пра які аўтар піша сапраўды натхнёна і сапраўды пераканальна:

«Як дзіця ў маці, мастак у грамадстве бывае такім, а не інакшым, не падобным на другіх, бо ён — **чалавек**, асоба. І ў сваёй песні мастак не можа фальшывіць. Забараняецца яму крывадушнічаць і фокуснічаць. Праўда і прыгажосць павінны быць у той песні. Ісціннасці і надзейнасці чакаем ад яе. Такая ўжо эпоха... Будучыя пакаленні атамнага веку (і іншых наступных) не пахаваюць плён нашых намаганняў. Нават калі сёй-той з нас і стоміцца, як хэмінгуэеўскі рыбак з аповесці «Стары і мора», усё адно моладзь, падобна хлопчыку Маналіна, скажа: «Мы будзем рыбачыць з табою разам, таму што нам яшчэ многаму трэба навучыцца...»

Кніга З. Азгура — гэта шчырая споведзь аб перажытым. І аб першых жыццёвых уражаннях у вёсцы Масоры, адкуль пайшоў у свет мастак, і аб імкненні «маэстра віцебскага» ляпіць, і аб яго зачараванасці легендарным майстэрствам легендарнага Югана Глёка, і аб занятках у Пэна і Керзіна ў Віцебску, і аб узаемадачыненнях з «натурай» і каркасам, і аб самым запаветным у сваёй творчасці ўчора і сёння. Не, аўтар не хавае сваіх думак аб тым, што зроблена — ён шчыра гаворыць аб удачах і аб тым, што магло б атрымацца лепей.

Чалавек шырокіх творчых інтарэсаў, З. Азгур, дзе б ён ні жыў, заўсёды— у артыстычным асяроддзі. І не толькі ў артыстычным —ён з цікавасцю знаёміцца з кожным працаўніком — прадстаўніком любой прафесіі, абы не быў раўнадушны чалавек да сваёй справы. Таму і паўстаюць на старонках кнігі, як жывыя, многія цікавыя людзі— партызаны, партыйныя работнікі, простыя віцябляне, славутыя скульптары краіны, мастакі і пісьменнікі Расіі, Украіны, нашай роднай Беларусі. Дзесяткі і дзесяткі найцікавейшых людзей, сярод якіх дыяментам свеціцца імя аўтаравай маці...

Яму ёсць пра што сказаць, аўтару гэтай кнігі. неацэнная для кожнага, хто возьмецца некалі пісаць «аб'ёмную, рэльефную» гісторыю нашага выяўленчага мастацтва. Як мемуары, гэтая кніга цікавая і для гісторыкаў літаратуры — тут столькі жывых рысак многіх пісьменнікаў, з якімі дружыў і дружыць З. Азгур. Як роздум пра сакрэты майстэрства, гэтая кніга цікавая для скульптараў і для жывапісцаў, для прадстаўнікоў любога з творчых цэхаў выяўленчага мастацтва. Яна цікавая і для мастацтвазнаўцаў — сваім палемічным запалам,. сваёй актыўнасцю ў імкненні да важкіх тэарэтычных абагульненняў.

Апрача ўсяго, гэта каштоўнае дапаўненне да ўсяго лепшага, што створана З. Азгурам у скульптуры. Гэта своеасаблівы з аднаго боку — каментарый, а з другога — працяг той галерэі партрэтаў, якія ім створаны. Мы дазнаемся, як развівалася творчая думка скульптара ў рабоце над партрэтам гістарычным, над вобразам Ільіча, як ствараліся партрэты шматлікіх сучаснікаў скульптара — ад перадавіка працы да вучонага, пісьменніка.

З. Азгур лічыць сваімі настаўнікамі не толькі Пэна і Керзіна, Манізера і Баха, але і Купалу і Коласа, Бядулю і Чорнага, у якіх навучыўся шмат чаму істотнаму ў мастацтве. А калі чытаем яго старонкі пра Скрыгана ці Глебку, Гарэлава або Ахрэмчыка, Бялыніцкага-Бірулю і многіх-многіх іншых, — бачым, што ён умее вучыцца і ў старэйшых, і ў маладзейшых. Умее спрачацца. Умее адстойваць свае погляды. Умее дзяліцца набытым творчым багажом.

Прывяду, напрыклад, такія пераканальныя думкі, выказаныя ў кнізе па самых надзённых праблемах творчасці:

«Метад сацыялістычнага рэалізму з'яўляецца бясконцым у сваім развіцці. Ён бясконцы таму, што заснаваны на традыцыях рэалізму ўсёй шматвекавой гісторыі мастацтва. Ён бясконцы таму, што чэрпае свае галоўныя якасці не з якога-небудзь стылю, а з самых глыбінь жыцця, думак, спадзяванняў і надзей чалавецтва. І таму метад сацыялістычнага рэалізму нельга абмежаваць якімі-небудзь дзвюма-трыма формамі выяўлення».

І ніжэй:

«Паколькі адзін мастак не падобны на другога ў сваім успрыняцці свету і, значыцца, па-свойму выказвае жыццё, ён, знаходзячыся на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму, заўсёды можа сказаць у сваіх творах нешта новае, калі пры гэтым не будзе каго-небудзь пераймаць».

Не пакінуць чытача раўнадушнымі і старонкі, прысвечаныя пошукам сучасных мастакоў на захадзе, спрэчкам з абаронцамі сучаснага фармалізму. А яшчэ, бадай, больш закрануць старонкі, на якіх—шчыра пераказаныя, вынесеныя на суд чытача спрэчкі з калегам, якога аўтар не назваў, пра надзённае ў мастацтве.

Нягледзячы на тое, што сказана шмат вельмі цікавага, закрываючы кнігу, чытач пажадае: многае з таго, чаму Азгур быў сведкам, абавязкова павінна быць яшчэ напісана.

Хочацца верыць, што новая кніга будзе напісана. І яшчэ хочацца верыць, што і некаторыя іншыя мастакі ўслед за Азгурам паспрабуюць аднавіць жывыя рысы гісторыі нашага мастацтва — вельмі цікавага, змястоўнага, вядомага сёння далёка за межамі нашай рэспублікі.

Ул. БОЙКА.

Заір Азгур. «То, что помнится...» Выдавецтва «Изобразительное искусство». Масква, 1969.

саў—амаль на кожнай старонцы кніжкі. Ну, няўжо дзеячы народных тэатраў, часцей за ўсё прафесіянальна дасведчаныя рэжысёры, не ведаюць, што ў рэпертуар «раней за ўсё адбіраюцца п'есы, у якіх закранаюцца і ўзнімаюцца актуальныя праблемы сучаснасці»? Што «п'есы намечанага рэпертуару павінны быць ідэйна вытрыманымі»? Аўтары кнігі лічаць неабходным спецыяльна паведаміць аб гэтым. Як і аб тым, што работа калектыву з мясцовым аўтарам «цікавая і захапляючая», што тэмы яму можа падказваць і народны тэатр, які «захоплены той або іншай праблемай і гарыць жаданнем увасобіць яе на сцэне», і выбраць сам драматург, прапануючы «п'есу, тэма якой яго даўно хвалявала і знайшла водгук у рэжысуры і калектыву»... Чытаеш такое, і хочацца спыніць К. Кулакова і Ю. Сцяпанава: таварышы, гэта ж «Волга цячэ ў Каспійскае мора»!..

Паўтараючы азбучныя ісціны, аўтары кнігі нават не лічаць патрэбным спасылацца на крыніцы, з якіх яны бяруць думкі і назіранні. Ды і цяжка іх назваць, тыя крыніцы, бо напісанае ў кніжцы «Асновы сцэнічнага мастацтва» выглядае і «не сваім», і «ні ў кога не ўкрадзеным». Праўда, у прадмове аўтары прапануюць кіраўнікам самадзейнасці пазнаёміцца з некаторымі кнігамі К. Станіслаўскага, М. Кнэбель і А. Папова. Чаму толькі з гэтымі? А У. Неміровіч-Данчанка, М. Гарчакоў, Б. Бабачкін, Г. Таўстаногаў — што іх не абавязкова чытаць? Ці толькі з прац названых аўтараў чэрпалі думкі К. Кулакоў і Ю. Сцяпанаў? Не, арсенал для кампіляцыі яны скарысталі значна большы!..

Аўтары спрабуюць спасылацца і на вопыт работы народнага тэатра Мінскага палаца прафсаюзаў, якім яны кіруюць. Якое тут было шырокае поле для канкрэтнай размовы пра станаўленне самадзейнага артыста, пра творчы пошук калектыву пры пастаноўках п'ес, якія мелі класічнае ўвасабленне на прафесіянальнай сцэне. Нічога гэтага няма. Скажам, ставілі нашы аўтары «Васу Жалязнову». І даюць на старонках кнігі звычайны каментарый да тэксту п'есы, да таго ж зноў «не свой», а запазычаны з чужых прац (напрыклад, Ю. Юзоўскага, Б. Бяліка і іншых). Або сабраліся яны расказаць, як калектыў ставіў «Інтэрвенцыю» Л. Славіна, а ўсё звялося да таго, што ў кнізе інфармацыйна паведамляецца пра тое, як артысты-аматары слухалі «адэскі фальклор» у выкананні Л. Уцёсава і М. Бернеса і як выканаўцы з'ездзілі ў Адэсу (гэта «абагаціла фантазію іх і памагло ў рабоце над спектаклем»).

Такім чынам, творчы вопыт гэтай цікавай трупы народнага тэатра так і застаўся не раскрытым. Нават у спецыяльным раздзеле — «Нашы біяграфіі», дзе даюцца імёны і рэпертуарныя спісы роляў удзельнікаў самых значных спектакляў. Бо характарыстыкі тут такія кволыя і агульныя, што чытач наўрад ці зможа «разгледзець» аблічча і зразумець творчую індывідуальнасць самадзейных артыстаў («яе Васа драпежная, жорсткая, але разам з тым не пазбаўленая станоўчых чалавечых якасцей і фарбаў» — сказана, напрыклад, пра А. Скарабагатаву. А пра Ж. Шабан мы даведваемся, што многія яе ролі «прынеслі радасць не толькі ёй, а і гледачам, якія паспелі яе палюбіць»).

Задума была, відаць, добрая: аўтары збіраліся якраз на прыкладзе аднаго самадзейнага тэатра паказаць цяжкасці і радасці адданых аматараў сцэны, якія ў творчым працэсе засвойваюць «асновы сцэнічнага мастацтва». Збіраліся і... напісалі нешта зусім не тое. Канспект. Кампіляцыю. Пры цяперашнім «голадзе на паперу» выдавецтва «Полымя» было занадта шчодрым, калі знайшла для такой кніжкі ладны рулон. Яна выдадзена на добрай паперы і каштуе 16 капеек.

В. ШЫПІЦА.

# ВЫПУСК ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

**НА ДЫПЛОМНЫХ СПЕКТАКЛЯХ ВЫХАВАНЦАЎ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА...**



Беларуская народная казка «Алёнка», У ролі Алёнкі — Элеанора Шклярава.



Сцэна са спектакля «Дзяўчынка і красавік». У ролі Вары Машко — Валянціна Нежувака, Ігара Лосева — Валерый Шушкевіч.

Іх дваццаць шэсць. Маладых, вясёлых, энергічных, поўных светлых надзей. Дваццаць шэсць будучых герояў і гераінь, трагікаў і комікаў, інжэню і травесці. Такі выпускны курс сёлетняга года ў Дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце.

Дваццаць першы выпуск акцёрскага факультэта супадае з яшчэ адной важнай датай у культурным жыцці рэспублікі — інстытуту неўзабаве спаўняецца чвэрць стагоддзя. У прафесіянальных і народных тэатрах, на радыё і тэлебачанні, у навукова-даследчых установах і рэдакцыях працуюць яго выхаванцы. Многія з іх сваёй творчасцю заваявалі прызнанне грамадскасці.

Новы выпуск — дваццаць першы... Які ён? Што панясуць людзям тыя маладыя, улюбёныя ў тэатральнае мастацтва юнакі і дзяўчаты, якіх майстэрству акцёра вучылі народны артыст СССР Б. Платонаў, народная артыстка БССР І. Ждановіч, выкладчыкі Г. Старкоўская і Я. Громаў, мастацкі кіраўнік курса — народная артыстка РСФСР, прафесар В. Рэдліх. Вядома, выхаванцы будуць помніць і выкладчыкаў сцэнічнай мовы і руху, танцаў, сольнага спявання, грыму, спецыяльных тэарэтычных дысцыплін і грамадска-палітычных навук.

На дыпломных спектаклях выпускнога курса было і ціха, было і шумна. З нецярплівасцю чакалі выхаду на сцэну таварышаў па вучобе студэнты малодшых курсаў, бацькі выпускнікоў, прадстаўнікі грамадскасці сталіцы. Па традыцыі паглядзець дыпломныя спектаклі прыйшлі вядомыя майстры беларускай сцэны, кіраўнікі тэатраў. Усім цікава паглядзець на новую акцёрскую змену. За сталом — члены дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі на чале з заслужаным дзеячом мастацтваў РСФСР, прафесарам, рэктарам Школы-студыі імя У. І. Неміровіча-Данчанкі пры Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры імя М. Горкага В. Радамысленскім.

Гасне святло. Паказваецца дакументальная драма Ю. Прынцава «Дзявятая сімфонія». Рэжысёр-педагог Г. Старкоўская, мастак Б. Казакоў. Спектакль уваскрашае рамантыку незабыўных дзён першых год станаўлення Савецкай улады. Гераізм і самаахвярнасць, маральная чысціня першапраходцаў новага свету захапілі выпускнікоў акцёрскага факультэта. Перад гледачом — нязломны, валявы і такі глыбока чалавечны Мікалай Астроўскі, у ролі якога выступае Георгій Маляўскі. Побач — таварышы па агульнай барацьбе, жонка Астроўскага (студэнтка Эмілія Марозава), іх шматлікія сябры. Невялікая роля ў Людмілы Рак, але яна так шчыра і непасрэдна паказвае на сцэне сялянскую дзяўчынку Грыпу, якая ідзе ў рэвалюцыю, што адразу заваявала сімпатыі гледачоў.

І ўсё ж, пры ўсіх намаганнях выпускнікоў, спектакль хваляваў не заўсёды і не ўсіх. І гэта віна не толькі маладых акцёраў. Відаць, для дыпломных спектакляў на гісторыка-рэвалюцыйную тэму (і не толькі на гэтую тэму) варта выбіраць п'есы, якія даюць больш зручны «ролевы матэрыял» маладым выканаўцам. Спектакль іграўся на беларускай мове. Культура яе не ўсім пакуль што далася добра, але многія выпускнікі паказалі, што яны могуць папоўніць трупы купалаўскага і коласаўскага тэатраў, тэатра юнага гледача.

— Сапраўдную асалоду даставілі мне інсцэніроўкі беларускіх народных казак, — сказала карэспандэнту газеты «Літаратура і мастацтва» народная артыстка БССР С. Станюта. — З любоўю да народных характараў і да роднага слова, з поўнай аддачай сваіх душэўных сіл ігралі выпускнікі. Паэтычны, наіўны свет казкі, у якой заўсёды дабро перамагае зло, неяк пасабліваму тактоўна і праўдзіва быў перададзены са сцэны. Важна і тое, што яны адчулі непаўторную прыгажосць фальклорных скарбаў. Хочацца верыць, што беражлівае стаўленне да народнага мастацтва яны пранясуць праз усё творчае жыццё...

Выпускнікі паказалі тры беларускія народныя казкі — «З рогу ўсяго многа», «Алёнка» і «Леснікова жонка». Літаратурную і сцэнічную кампазіцыю іх зрабіла рэжысёр-педагог В. Рэдліх (балетмайстар — Т. Узунава, пантаміма — В. Урагаў, мастак — А. Краўчук). Нават вопытным прафесіяналам-акцёрам, а тым больш моладзі, якая робіць толькі першыя крокі на сцэне, нялёгка ставіць спектаклі-казкі, каб усё на сцэне было праўдзіва і наіўна, без найгрышу. Выпускнікі Валерый Шушкевіч (дзед) і Валянціна Нежувака (баба), Жанна Ермаліцкая (журавель), Уладзімір Крыцкі (эканом), Генадзь Золаў (чорт), Эмілія Марозава (жонка лесніка) і іншыя з гэтай задачай у асноўным справіліся. Яны часам выглядалі добрымі імправізатарамі-выдумшчыкамі, з захапленнем жылі ў прапанаваных абставінах казачнага відовішча.

На працягу чатырох гадоў вучобы студэнты ставілі ўрыўкі, сцэны і цэлыя акты з п'ес беларускіх драматургаў («Несцерка» В. Вольскага, купалаўская «Паўлінка», «Ірынка» К. Чорнага), інсцэніроўкі па творах сучасных беларускіх пісьменнікаў. Толькі чамусьці праграма выпускнога рэпертуару абышлася на гэты раз без твораў беларускіх драматургаў. Шкада! Адзін казачны спектакль, канечне, не дае падстаў для ацэнкі падрыхтаванасці будучых акцёраў для самастойнай работы над вобразамі нацыянальнай класікі і нашых сучасных аўтараў.

Цікавай творчай работай быў дыпломны спектакль па п'есе Т. Ян «Дзяўчынка і красавік» (рэжысёр-пастаноўшчык Ф. Шэйн, рэжысёр-педагог Я. Громаў, мастак Б. Казакоў). Спектакль прысвечаны жыццю нашай моладзі. Мы зноў сустракаемся з вядомымі ўжо нам імёнамі, але ў новых якасцях. Валянціна Нежувака і Валерый Шушкевіч пераканаўча абмалявалі характары маладых закаханых, Эмілія Марозава — бабулю. Запомніліся выпускнікі Мікалай Глушакоў у ролі Пятуха, Натэла Маргіяні (Мілка), Жанна Ермаліцкая (Марына), Вячаслаў Саладзілаў (Макс Іванавіч). А які прывабны вобраз дворнічыхі Сімкі Тоўстай стварыла выпускніца Ала Палухіна!.. Мабыць, больш блізкі да індывідуальнасці студэнтаў драматургічны матэрыял спрыяў іх поспеху.

Сярод дыпломных спектакляў асобае месца займае пастаноўка В. Рэдліх «Ідыёта» Ф. Дастаеўскага. Вядома, што ўвасобіць на сцэне герояў рамана выдатнага рускага пісьменніка адважваюцца не многія тэатры. Але сцэны ў двух актах з «Ідыёта», паказаныя выпускнікамі, не дзёрзкасць неразумная, а смелая проба маладых сіл. Бо на класічных творах гартуецца талент акцёра, тут на поўную сілу праяўляюцца грані яго індывідуальнасці і сталасць светапогляду. Працавалі выпускнікі над гэтым спектаклем многа, старанна, з захапленнем. Інакш і не магло быць, асабліва калі ты — князь Мышкін. Гэту ролю іграе ўсё той жа Валерый Шушкевіч. Цікавы гэты юнак наогул. Чатыры гады назад падаў заяву ў інстытут невялікага росту хлапчук. Паглядзела яго прыёмная камісія і вырашыла «часова ўстрымацца». Пасля ўсё ж пакінулі Валерыя кандыдатам. І вось сёння ў дыпломных спектаклях ён «заявіў» сябе з лепшага боку, як здольны і ўдумлівы малады мастак.

Ала Палухіна стварыла вобраз Настассі Піліпаўны. Мабыць, не варта тут нагадваць вядомых майстроў савецкай сцэны, якія выступалі ў гэтай ролі. Па-свойму пераканаўча раскрывае істотныя рысы вобраза наша выпускніца. І дзякуй ёй за гэта. А як не прыгадаць Парфёна Рагожына — Г. Маляўскага, Гаўрылу Ардаліёнавіча — Г. Золава. Калі гэта яшчэ не закончаныя сцэнічныя партрэты, дык патэнцыяльна яркія выканаўчыя ін-

У НАШЫХ ФАНАТЭКАХ

# СПЯВАЮЦЬ ХОРЫ БЕЛАРУСІ

Дзесяць гадоў назад у фанатэкі аматараў беларускай харавой песні паступіла выдадзеная ладным тыражом грампласцінка «Гранд» з запісамі песень Я. Цікоцкага на вершы Я. Купалы «Што за хлопец, што за дзяўчына», «Зайшло сонейка», «Ой, не вылятай, зязюля» ў выкананні Дзяржаўнай харавой капэлы БССР пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Зараз — гэта ўжо гісторыя. Аднак іменна з гэтай «першай ластаўкі» пачалася, умоўна кажучы, вясна беларускай песні ў грамзапісах. Аднак яшчэ доўга, і гэта ў той час, як беларуская песня заваёўвала ўсё новых і новых прыхільнікаў у многіх кутках краіны, у крамах з'яўляліся лічаныя дыскі з запісамі беларускіх хораў. Ды і ці толькі іх? Такі ж самы быў лёс і лепшых твораў беларускай сімфанічнай і камернай музыкі.

І ўсё ж «лёд» крануўся. Тут пэўную ролю адыграла і прэса, са старонак якой гучала патрабаванне слухачоў, каб былі беларускія запісы. Вельмі прыемна, што сярод ста доўгачаканых «беларускіх» дыскаў, якія выпусціла за апошнія гады фірма «Мелодыя», трэцюю частку складаюць запісы харавой музыкі. Так дзякуючы невялікаму чорнаму пластмасаваму дыску з песнямі беларускіх хораў, з лепшымі творамі беларускіх кампазітараў-песеннікаў змагла пазнаёміцца шматмільённая аўдыторыя слухачоў у самых розных кутках краіны.

У разнастайным каталозе грамзапісаў, бывае, заблытаецца і дасведчаны. Кожны месяц са студый фірмы «Мелодыя» паступаюць да слухача ўсё новыя і новыя пласцінкі з запісамі спевакоў, музыкантаў, аркестраў і іншых калектываў. І калі ўжо гаворка пайшла аб запісах харавых калектываў рэспублікі, пастараемся «па-лоцманску» правесці вас па шырокім каталозе запісаў.

Беларуская дзяржаўная харавая акадэмічная капэла, якой няма патрэбы даваць «чарговую» характарыстыку, дала ў нашы фанатэкі вельмі цікавыя дыскі з запісамі сваіх лепшых нумароў. Слухаючы песні ў выкананні капэлы, міжволі пераносішся ў цудоўную краіну мары і ўяўлення, адчуваеш трапяткое дыханне сінявокай Беларусі, яе рэк, азёр, палёў. Вы толькі што праслухалі ў выкананні капэлы хоры В. Шабаліна на вершы М. Танка і А. Пушкіна. Здаецца, морам пошуму разліліся пушчы Палесся, злучыліся са смаленскімі пералескамі і пабеглі на поўнач да ніў натхнёных Міхайлаўскіх мясцін. Гэта ж сімфонія, сатканая з шуму хваляў сінягрудага Нёмана і ўсплёскаў свавольнай Бярэзіны, з таямнічай гамонкі адвечнага лесу і трымцення зорак! Што ні кажыце, а песня настройвае на паэтычны лад...

Слухаючы грампласцінку, ты настройваешся на «хвалю песні». І гэта далёка не адно і тое ж, што ўспрымаць вакальны або сімфанічны твор у зале філармоніі. У сваю чаргу не заўсёды мастацкі калектыў пры запісе захоўвае сваю непаўторную індывідуальнасць, бывае, яна губляецца на пласцінках або гучыць «не зусім так». Акадэмічная капэла пад кіраўніцтвам Р. Шырмы здолела пераадолець гэты «бар'ер». Яе «акадэмізм» не вузкаутылітарны, ён арганічна ўвабраў у сябе высокі прафесіяналізм і захаваў трапяткую чысціню чалавечай абаяльнасці. Гэта перадае, напрыклад, і новая грампласцінка з запісам вакальна-сімфанічнай паэмы «Вечна жывыя» Г. Вагнера (Д 15571-2), дзе так пранікнёна і высакародна гучыць жаночая група капэлы.

Добрыя словы адрасуюць збіральнікі фанатэк і Дзяржаўнаму народнаму хору БССР пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча. Шырыня і меладычнае хараство яго гучання, рытмічнае багацце малюнка і нейкае, я сказаў бы, запаветнае пачуццё лірычных выказванняў, у якое так натуральна «ўрываецца» сакавіты гумар, — усё гэта цудоўна перадаецца і ў запісах. Пласцінкі гэтага хору ідуць па ўсёй краіне і за яе межы, карыстаюцца вялікім попытам аматараў народнай музыкі. Таму калектыў можна назваць нашым сапраўдным паўпрэдам у прапагандзе навінак харавой і песеннай дзейнасці беларускіх кампазітараў. З пласцінак «пайшлі ў народ» песні І. Лучанка «Ён нарадзіўся вясной», М. Наско «Ленінскім шляхам», У. Алоўнікава «Салігорская раніца» і іншыя. Глыбока кранае спяванне хору, напоўненае чыстай і ўсхваляванай лірыкай, у рускіх народных песнях «Зімачка», «Стэп ды стэп кругом», беларускіх песнях «Салавейка, пташачка малая», «Там каля млына».

Ну і, вядома, нельга не сказаць аб запісах папулярнага харавога калектыву рэспублікі — хору Беларускага радыё пад кіраўніцтвам В. Роўды. Добра зроблены грамзапісы песень Ю. Семянякі «Бессмяротнасць», У. Алоўнікава «Песня аб Брэсцкай крэпасці», А. Туранкова «У навальніцу» і іншыя (Д 8639-40). Зусім нядаўна хорам бліскуча запісаны на пласцінку тыпу «Гігант» (Д 024919-20) песня-кантата А. Фляркоўскага «Песня, што вырвалася з пекла» і чатыры хоры А. Турышава на вершы Сяргея Ясеніна. Хору ўласціва непасрэдна-арганічная шчырасць, тонкая перадача стылю музыкі. Пачуццё рытму, сакавіты каларыт і музычная вобразнасць у фарбах дапаўняюць уяўленне слухача аб майстэрстве калектыву і харастве выконваемых твораў.

Запісы творчасці харавых калектываў рэспублікі служаць вялікай справе эстэтычнага выхавання слухача.

дывідуальнасці. Добра выглядалі на сцэне і А. Жук (генерал Япанчын), М. Глушакоў у маленькай ролі дворніка...

Рэпертуар дыпломных спектакляў 21 выпуску акцёрскага факультэта быў разнастайны. Сапраўднае задавальненне прынёс вечар вадэвіля, у якім так цікава і разнастайна праявілі сябе выпускнікі В. Саладзілаў, Т. Скакунова, Г. Золаў і іншыя.

Канечне, калі мы гаворым словы «цікавыя» або «пераканаўчыя» ў дачыненні творчай моладзі гэта ў значнай ступені авансы. Жыццё пакажа, хто з цяперашніх выпускнікоў сапраўды мае здольнасці да самастойнай дзейнасці на сцэне. Будуць і нечаканасці, будзе і расчараванне. Нам падабалася, што не чакаюць палёгкі і самі ўчарашнія студэнты — яны ведаюць, што далёка не ўсё добра ў іх з мовай, што нават самы яркі поспех здабываўся пад наглядам вопытных педагогаў, што наперадзе зусім іншыя ўмовы работы над ролямі. У гутарках з імі адчуваеш не толькі зразумелае хваляванне, а і пачуццё адказнасці перад інстытутам: хлопцы і дзяўчаты хацелі б пацвердзіць сваё права на творчасць і з гордасцю называць сябе вучнямі тых, хто не адзін год перадаваў ім вопыт і ўвагу, шліфуючы нават не ўсім ясныя здольнасці сваіх выхаванцаў. І яшчэ адна прычына вострага пачуцця адказнасці — дваццаць першы выпуск акцёрскага факультэта Дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута складзе ядро новага ў рэспубліцы драматычнага тэатра ў Бабруйску.



Сцэна з дыпломнага спектакля «Ідыёт». У ролі Настассі Пілілаўны — Ала Палухіна.

Фота Ул. КРУКА.

Шчаслівай дарогі!

Я. ДАНСКАЯ.

Аднак хочацца зрабіць і папрок кіраўніцтву трох калектываў і фірмы «Мелодыя». У іх выкананні заўважаецца стылявая стракатасць. У чым справа? Калі звярнуцца да запісаў такіх калектываў, як, скажам, хор «Летува» з суседняй Літвы, дык па-добраму здзівіць стройнасць яго праграм, якія запісваюцца на пласцінкі. Напрыклад, апошнія запісы «Летувы». На трох дысках запісана праграма «Ветры вякоў». У вобразнай форме адлюстраваны ў ёй змены ў жыцці народа за гады Савецкай улады. Або возьмем праграму, запісаную на шасці дысках, — «Анталогія літоўскай народнай песні». Яна падрыхтавана кабінетам народнай музыкі Дзяржаўнай кансерваторыі Літоўскай ССР. Адзінства тэм, адзінства стылю! Заслугоўваюць увагі пласцінкі з запісамі харавых калектываў рэспублік Грузіі, Узбекістана, Латвіі. Так, толькі ў Ташкенце аж на 20 дысках выдадзены з густам падабраныя народныя мелодыі і песні, якія карыстаюцца папулярнасцю сярод слухачоў.

На жаль, пакуль можна толькі спадзявацца, што такія дакладна прадуманыя выданні з'явяцца і ў нас. А яны вельмі патрэбны, патрэбны для таго, каб у таленавітым выкананні беларускіх хораў заззяла новымі гранямі песеннае мастацтва Беларусі, каб песні, як дыяменты, выйшлі да людзей абмытыя ранішнімі росамі, сагрэтыя сонцам, ачышчаныя ўмелай рукой майстра, які іх ажывіў.

Ул. ЯФРЭМАЎ.

ПРА ТЫХ, КАГО НЕ БАЧЫЦЬ ГЛЯДАЧ

# РЫСЫ ТЫСЯЧЫ ТВАРАЎ

Толькі што пагаслі агні рампы, і гледачы, якія яшчэ не паспелі «астыць» ад перыпетый спектакля, пакідалі глядзельную залу Рускага тэатра БССР імя М. Горкага, калі я стаў сведкам адной цікавай размовы. Гаварылі двое — невысокі, каржакаваты хлопец і крыху кірпатая дзяўчына.

— Ты ведаеш, я проста ўзрушаны, — сказаў ён. — У мяне такое пачуццё, быццам я апынуўся ў каралеўскім замку. І ведаеш, відаць, не з-за дэкарацый. Што за твары ў акцёраў! Нібы бачыў іх на гравюрах старажытнага фаліянта.

— Вось дзівак,— усміхнулася яна. — Гэта ж грым. Грым! Разумееш? Паглядзі ў праграмку, бачыш —грымёр С. Школьнікаў... Ведаеш, які гэта майстар?!.

Я быў прыемна здзіўлены, калі хочаце — нават збіты з панталыку. Мілая дзяўчына, яна ўпамянула імя дарагога мне чалавека, чалавека, з лёгкай рукі якога пачалося маё жыццё ў тэатры.

Людзі, якія прыходзяць у тэатр, ніколі не бачаць яго на сцэне. Ды, відаць, многія з іх і не звяртаюць увагі на яго работу. Ім здаюцца неабходнымі атрыбутамі спектакля і твары акцёраў, і іх прычоскі, магчымыя змены ў знешнасці. Для іх гэта аксіёма. Але можа іменна ў гэтым і заключаецца самая вышэйшая ацэнка работы грымёра, які тонка і неназойліва дапамог акцёрам заваяваць давер гледача, дапамог увесці яго ў патрэбную атмасферу спектакля...

Мне лёгка ўявіць сабе гэтага чалавека, ён нібы «наплывае» скрозь твары і вобразы кожнага спектакля. Шаснаццаць гадоў назад баязлівым і ўсхваляваным дэбютантам я ўпершыню сеў за грыміровачны столік у Рускім тэатры БССР. Мне пашанцавала, бо я «адчуў на сабе» не толькі дотык рукі сапраўднага майстра, але і нешта не менш важнае: сапраўдную прыязнасць, якая ўсяляе ўпэўненасць перад першым выхадам на сцэну, добрыя, цёплыя словы старэйшага таварыша-бацькі. Пазней я даведаўся, што гэта і ёсць «генеральная лінія» Сямёна Паўлавіча ў абыходжанні з акцёрамі. Адсюль і тыя бацькоўскія клопаты, якімі ён акружае таварышаў па мастацтве. Талент і рэдкая працавітасць мастака плённа ўздзейнічаюць на кожнага, хто сустракаецца з ім.

Я часта задумваўся над тым, што прывяло яго да гэтай, на першы погляд, незайздроснай тэатральнай прафесіі. Ну, зразумела, хто з падлеткаў не марыў стаць славутым артыстам і купацца ў праменнях славы... Але грымёр?! У жыцці ўсё было больш празаічна. Трынаццацігадовым падлеткам Сеня заняў месца бацькі, які пайшоў на царскую вайну, за грымёрным столікам Магілёўскага тэатра. Заняў на ўсё жыццё.

Новы спектакль у тэатры — заўсёды свята. У такія дні грымёрны цэх заслужанага дзеяча культуры БССР Школьнікава ператвараецца ў «баявую рубку». Любыя, самыя натхнёныя словы ўдзячных акцёраў не могуць выказаць і малой долі прызнання, якое адчуваюць яны пасля набедання Сямёна Паўлавіча. І гэта не дарма. Разумны і тонкі мастак, назіральны майстар, ён кожнай новай рабоце — няхай гэта будзе грым галоўнага героя або нават нязначная прахадная роля, — аддае ўсяго сябе без астатку. Бо грымёр таксама адзін з тых, каго называюць павітухамі акцёрскага вобраза...

Калі П. Малчанаў упершыню на беларускай сцэне ў тэатры імя Якуба Коласа ствараў вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, аўтарам ленінскага грыму быў С. Школьнікаў. Зараз Сямён Паўлавіч працуе над ленінскім вобразам з артыстам Ф. Шмакавым, які выступае ў ролі Леніна ў тым жа тэатры.

Сямёна Паўлавіча Школьнікава ведаюць і цэняць у многіх тэатрах, але галоўная праца ўкладзена ім, канечне, у спектаклі Рускага тэатра БССР імя М. Горкага. «Цар Фёдар Іаанавіч» і «Кароль Лір», «Брэсцкая крэпасць» і «Антоній і Клеапатра», «Маскарад» і «Варвары», «Крамлёўскія куранты» і «Марыя Сцюарт» — вось яркія «этапы» складаных і адказных для грымёра работ у Мінску.

Зроблена многа. Накоплены багаты вопыт. Вельмі непакоіць Сямёна Паўлавіча — што з ім рабіць, каму перадаць. У яго ёсць і талент педагога, ён умее вучыць далікатна і настойліва. Ён марыць і спрабуе на практыцы стварыць хоць бы маленькую групу вучняў сваёй прафесіі. Пакуль у гэтай справе яму не ідуць насустрач, што засмучае майстра, чыя жыццёвая патрэба зараз — вучыць. Бо і грымёрамі «не нараджаюцца»!



Сямён Паўлавіч аўтар трох кніг па грыме. Чытаючы апошнюю з іх, адчуваеш гордасць за чалавека, які здолеў, здавалася б, у сціплай сваёй прафесіі ўзняцца да ступені навуковага абагульнення, дакладна ўвязанага з практыкай. Гэта не толькі пра тое, як грыміруецца акцёр, а і пра неўтаймаваны пошук мастацкага вобраза чалавека, дзе душа і цела, эмоцыі і твар павінны скласці гарманічнае цэлае. Праз вочы мы «чытаем» унутраны свет. Праз твар зазіраем у душу. І далёка не ўсё роўна, якая «маршчына» прабяжыць каля носу або які колер вачэй будзе ў персанажа...

Выконваючы абавязкі дацэнта, старшы выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, аўтар вучэбнай праграмы і многіх артыкулаў, скульптар, мастак, фатограф-летапісец — усё гэта ўвасоблена ў чалавеку, які ўжо пяцьдзесят гадоў два разы ў дзень, раніцай і вечарам, ідзе з дому ў тэатр, дзе яго чакаюць чарговыя прэм'еры, пошукі новых і новых вобразаў. Апрануўшы свой белы халат, ён бярэ ў рукі парык, разагравае шчыпцы. Працоўны вечар мабілізуе яго. Зараз ён проста грымёр. Грымёр-мастак. Перад ім знаёмы твар артыста, які Школьнікаў ведае даўно і падрабязна, і трэба зрабіць мінімум штрыхоў, каб у люстры адбілася аблічча героя ў адпаведнасці з задумай рэжысёра і накідамі мастака-афарміцеля спектакля. Гістарычна блізкае да прататыпа аблічча. Пераканаўчае. Выразнае. Каб гэты — новы! — твар арганічна ўвайшоў у партрэт, ствараемы выканаўцам ролі з дапамогай усяго арсеналу тэатральных сродкаў. Грымёр трохі думае, кідае позірк на акцёра, у люстра. Бярэ растушоўку і... пачалося!

Ул. БАГАЛЮБСКІ.

КІНО

# ПЫТАННЕ БЫЛО ПАСТАЎЛЕНА...

У аб'яднанні «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» рэжысёрам Вадзімам Сукманавым і аператарам Уладзімірам Цеслюком па сцэнарыі журналіста Вячаслава Марозава створаны фільм «Хто ж вы цяпер?». Ён расказвае пра ўрача Галіну Спірыдонаву, лётчыка Германа Лі, мастака Івана Стасевіча і адказнага сакратара Таварыства дружбы з ГДР Генадзя Юшкевіча. Гэта нашы сучаснікі, чыё дзяцінства спазнала горкі пах пораху. Стужка набывае якасці ўсхваляванага мастацкага расказу пра цэлае пакаленне, якое з бесклапотнага маленства пайшло ў суровую сталасць. Абкрадзенае пакаленне! Мужнае пакаленне!

Тэма як быццам не новая. Ужо, здаецца, мы не раз глядзелі фільмы пра дзяцінства ў вайне, пагаджаліся або не з іх стваральнікамі ў тым, як яны гэтую тэму раскрываюць. Выклікае цікавасць і стужка «Хто ж вы цяпер?». І перш за ўсё тым, што на экране паказана жыццёвая праўда, глядач знаёміцца з канкрэтнымі людзьмі, з розным, але ў нечым і падобным — у ваенным дзяцінстве — лёсам. Ім ёсць што ўспомніць, ёсць што расказаць. Аўтары фільма імкнуліся даць пэўнае дакументальнае даследаванне вядомай тэмы на прыкладзе вядомых для нас герояў.

На жаль, задума не цалкам ажыццёўлена. Відаць, каб раскрыць лёс чатырох чалавек у стужцы, якая дэманструецца ўсяго дзесяць мінут, каб зрабіць дакладныя абагульненні — чаго і чакаеш ад кінатвору такога жанру, — патрэбны не трывіяльныя прыёмы ўвасаблення тэмы. Часам кінапубліцысты нібыта і выбіваліся на сваю дарогу. Так, эмацыянальна багатым атрымаўся пралог фільма, удалым здаецца і спосаб апасродкаванага паказу жыццёвых шляхоў герояў. А яны, шляхі гэтыя, не лёгкія. Перад самай вайной у Ленінградзе закончыла чацвёрты клас Галіна Спірыдонава і прыехала на канікулы ў Беларусь. Потым, калі ў сорак пятым яна вярнулася ў Ленінград, яе не адразу пазнала маці. А была яна ў тыя гады санітаркай у партызанскім атрадзе. Байцом партызанскага атрада «Полымя» стаў і падлетак-мінчанін, сын ваеннага лётчыка Герман Лі. Доўга не бралі ў партызаны Івана Стасевіча (ён быў малы). Некалькі разоў ён перапісваў заяву ў атрад — атрымалася тоўстае сачыненне. І гэтае сачыненне чыталі ў партызанскіх узводах — столькі было ў ім нянавісці да ворага, які адабраў у Івана і яго равеснікаў дзяцінства. Дзень перамогі сустракаў Іван Стасевіч у Берліне. У глыбокі варожы тыл з парашутыстамі спецгрупы адправілі юнага разведчыка Генадзя Юшкевіча. У адной з баявых сутычак нямецкі афіцэр, які цэліў у Генадзя, быў абяззброены. Пісталетны патрон да гэтай пары захоўваецца як сямейная рэліквія Г. Юшкевіча.

Такія яны, героі фільма, такое іх дзяцінства.

Паступова нарастаюць матывы стрыманага роздуму. Калі б гэты роздум быў больш заглыблены, канкрэтызаваны, перадаваў сутнасць закранутых праблем, надаючы тым самым большую важкасць зместу, то фільм, безумоўна, захапіў бы гледача. Нібы разумеючы гэта, аўтары «ажыўляюць» сюжэт, але штучна. Найбольш яўна гэта праявілася ў замалёўцы (бадай, так можна вызначыць чатыры мантажныя кавалкі, якія леглі ў аснову фільма) пра Генадзя Юшкевіча. У дыктарскі тэкст ўнесены зусім лішнія версіі амаль дэтэктыўнага характару, а часу растлумачыць усё нестае... «Ажыўленне» не працуе на займальнасць.

Глядзіш фільм і ўвесь час ловіш сябе на думцы, што ты ніяк не можаш «падключыцца» да тых падзей, якія ў ім паказаны, не можаш сам нешта дадумаць, асэнсаваць. Хочацца затрымаць кадры, прыглядзецца да герояў больш пільна, каб убачыць у іх нешта адметнае, характэрнае. Зрэшты, да гэтага заклікае і сама назва— «Хто ж вы цяпер?» Думаецца, адказ на гэта пытанне атрымаўся ў фільме расплывісты і само яно гучыць рытарычна. Гэта тым больш шкада, што аўтары вядомы нам як добрыя і дапытлівыя даследчыкі, у чым мы пераканаліся па іх ранейшых работах.

Мяркуючы па тых скупых звестках аб героях, пра якія даведваешся з фільма, дакументалісты мелі багаты і каштоўны матэрыял, які пры ўмелым асвятленні і асэнсаванні мог бы загучаць паграмадзянску важна і надзённа.

Так, глыбокага даследавання не атрымалася. І ўсё ж фільм глядзіцца. «Выратоўвае» яго выяўленчы рад — вытрыманыя ў адной танальнасці планы нясуць настраёвасць. Добра адчуваюцца і лірычныя матывы, навеяныя прыгажосцю нашай, адбудаванай сталіцы, ранішняй чысцінёй і свежасцю яе вуліц, мірным небам, у якім працуе адзін з герояў кінастужкі.

В. ПОЛЯК.

# ДОКТАР ТАМА

Пʼер ГАМАРА

Апавяданне



СТАРЫ доктар Тама драмаў, седзячы ля агню. Ад яркага полымя ён напаўзаплюшчыў вочы.

Агонь ўсё ж не праганяў змроку. У куце азначаўся вузкі стол, закіданы кнігамі і паперамі, на якія раз-пораз клаліся бледна-барвовыя водсветы ад раптоўных сполахаў у каміне. За сценамі дома зімовая ноч замарозіла горы. Увесь дзень ішоў снег. На горных схілах і дарогах шалеў вецер.

Стары ўрач аддаўся ўспамінам. Была куцця, але доктар Тама нікога не чакаў у госці. Удавец, без сямʼі, без дзяцей, ён жыў на адзіноце ў доміку наводшыбе, адзін на адзін са сваімі кнігамі, з ценямі адышоўшых у нябыт дзён. Ён добра ведаў, што ніхто ўжо больш не будзе стукаць у дзверы ні ўдзень, ні ўначы. Яго маладзейшыя калегі ўладкаваліся хто дзе. Доктар Тама быў цяпер проста стары, які дробненька тупаў да стала ці да паліц з кнігамі, каб пагартаць які старадаўні фаліянт альбо новы часопіс, з тых, што яшчэ прыходзілі да яго, а то падстрыгаў кусты ружаў у садзе ці вінаградную лазу, што абвівала фасад дома з сонечнага боку.

Для яго клопаты скончыліся. Спачатку ён гэтаму нават радаваўся. Колькі разоў у час сваіх паходаў па гарах у любую гадзіну дня і ночы, у любую пору года ён лаяў ранейшае жыццё. Ніколі не было ні моманту перадыху, вольнай хвілінкі, каб перачытаць кнігу, якую любіў, альбо зрабіць прышчэпку на яблыні. Спяшаўся з лагчыны ў лагчыну, у густы туман, у снег, у гразь, да ўсё новых і новых вёсачак. Іншы раз маладыя ўрачы прыходзілі памагаць яму. Але ніхто не хацеў надоўга заставацца ў гэтым мядзведжым куце.

І вось прыйшла пара ісці на спачын. Доктар Тама паставіў у гаражык сваю маленькую машыну, якая заўсёды як бы ўсхліпвала, рохкала на крутых падʼёмах. Слаўная машынка! Яна таксама адслужыла сваё. Але праз колькі месяцаў ён пачаў шкадаваць ужо, што кінуў работу. Ніяк не мог прызвычаіцца да аднастайнага і бесклапотнага жыцця. Бяздзейнасць гняла яго. Ён часта спахопліваўся на думцы, што напружана ўслухоўваецца ў шум на дарозе. Вядома, людзі яшчэ нейкі час прыходзілі да яго, але ўсё радзей і радзей. «Доктар, малодшы Дарэнаў парэзаўся касой». Альбо: «У жонкі Эйшэнье Пʼера пачалося, доктар, вас чакаюць». Ці: «Сын булачніка ў гарачцы, ніхто не ведае, што з ім, доктар». Пакуль ён, перш чым сесці ў маленькую бурклівую і ўпарцістую машыну, складаў усё неабходнае ў свой паходны чамаданчык, людзі гаварылі, давалі шматслоўныя, па іх звычаях, тлумачэнні з усімі падрабязнасцямі адносна гаспадарчых спраў і жыцця, шчодра падмацоўваючы словы жэстамі. «Па вас прыйшлі, доктар, бо ведаюць вас, прывыклі да вас. Гэтыя ж занадта маладыя са сваімі апаратамі і новымі спосабамі...»

Аднак моладзь ёсць моладзь. І што б там людзі ні гаварылі, у дзверы доктара Тама стукалі ўсё менш. Ён і сам не хацеў, сам жа сказаў ім: «Я звольніўся, дайце мне спакойна падстрыгаць ружы. А заўтра мяне наогул дома не будзе...»

У яго цяпер не было пастаяннай практыкі, і пачалі трэсціся рукі. Людзі заўважылі гэта. А затым... затым яго машына больш ужо не пакідала гаража, не лескатала бязладна па лагчынных дарогах.

З часам доктар Тама прымірыўся са сваім новым жыццём. Клопат забіраў сад, доктар Тама шмат чытаў, быў і час для роздуму, для разгортвання кнігі сваіх успамінаў, у тысячу старонак...

Але тым вечарам, калі вецер скуголіў знадворку па-над глыбокімі снежнымі гурбамі, ад кнігі яго ўспамінаў патыхнула горыччу. Цішыня ў пакоі, як ніколі раней, прыгнятала. Дні маладосці і працы адышлі, памерлі. Кніга са старонкамі, нібы сатканымі з туманоў, выпала з яго рук. У кутках рота абазначыліся маршчынкі расчаравання. Хто цяпер пра яго думае? Хто думае, вас пытаюцца, пра доктара Тама? Людзі нараджаюцца і паміраюць. Вецер развявае іх прах. Эх! Будзе дзень, і доктар Тама навечна засне перад сваім камінам. Першыя дні людзі яшчэ колькі разоў вымавяць яго імя. Маладым яно нічога не скажа. Магчыма, які стары скажа: «Вось ведалі мы аднаго доктара! Гэта быў доктар! Свой, заўсёды з усмешкай на вуснах. Прыходзіў па першаму выкліку. Была ў яго маленькая такая машына, шыпела, бурчала, але ж хадзіла. Доўга гойсала яна па нашых дарогах!..»

Маладыя з далікатнасці ківаюць галовамі. Але імя яго ім нічога не скажа. А што яно можа сказаць ім? Так, імя доктара Тама выветрыцца, як жменька снегу, што загубіўся ў расколіне скалы. Хто спамяне старога чалавека, яго сціплую працу і тыя дні, якія ён пражыў у гэтым кутку Пірэнеяў?

Доктар уздыхнуў. Узнялася рука, прайшлася перад вачыма, нібыта для таго, каб адагнаць журботныя думкі. Трэба зноў разгарнуць кнігу, таўшчэзную кнігу, ад некаторых старонак якой патыхае маладым, вострым, красавіцкім духам. Пад нячутным ветрыкам пачалі перагортвацца старонкі ўспамінаў. Выплыў жаночы твар. Подых былых гадоў рабіўся ўсё больш адчувальны. Наваколле афарбавалася ў руды колер восені, у белы колер яблыневай квецені. Усплыў чэрвеньскі вечар, летняя раніца; глыбокая цішыня далін поўнілася музыкай крыніц. Зʼявілася жанчына. Ён ішоў з ёю па сцежцы. Трымаў яе за руку. Потым яны стаялі ля каміна. За шчыльна зачыненымі дзвярыма шапацеў кароткі вясновы дожджык, лютаваў лістападаўскі вецер...

Доктар Тама не адрываў позірку ад агню. У гарачым вуголлі колеру вішні і медзі ажылі няясныя вобразы мінулага. Успаміны... Усё мёртвае цяпер. Засталіся толькі лёгкія, як імгненне, іскры, амаль няўлоўны пах парфумы.

Ён узняў галаву — нешта рыпнула ў пакоі. Можа, шафа, паточаная шашалем, а можа, гэта рыпнуў стол пад цяжарам кніг...

Яму пачуўся голас, нейкае слова. Стары ўсміхнуўся і пацiснуў плячыма: «Старэчы псіхоз!»

Сумная ўсмешка застыла на вуснах. Яму сапраўды здалося, што ён пачуў слова. Яно блукала, як адзінокая пчолка, у змрочных ценях пакоя. «Будучыня...» Праз што падалося яму гэтае слова? Будучыня! Якая яна? Каму будзе належаць? Адно з тых неакрэсленых слоў, якія вымаўляюць проста так, рэдка нагружаючы іх цяжарам сэнсу. Што яно значыць — не ведаюць, а гавораць. Будучыня... Каму належыць будучыня, доктар Тама? Іншым, не табе. А ты, ты ўбачыш яе?

Я! Што я? Усяго толькі стары, які намагаецца ператварыць у сучаснае мёртвыя ўжо дні, і, скурчыўшыся, сядзіць перад галавешкамі, спрабуе марыць. Рэчы зношваюцца, а людзі дурнеюць. Зерне сеецца і памірае. Хіба хто захоўвае памяць аб тых, хто памог ім памерці? А потым — збажына скошана, зерне змолата. А людзі? Людзі трапляюць на іншыя жорны. Так заўсёды... І няма нічога горшага за цішыню наўкруг цябе, старога, больш слабага, чым трысціна пад напорам навальнічнага ветру.

Тама азірнуўся. Што гэта? Зноў трэск. Нейкі дзіўны хруст. Мэбля так не рыпіць. Раптам выразна прагучаў спакойны голас:

—Садзіся ў сваю машыну, доктар Тама! Сёння ноччу для цябе знойдзецца работа.

Стары правёў рукой па вачах, па лысым ілбе. Што гэта — сон?

— Садзіся ў машыну,— пачулася зноў.

У пакоі нікога не было: толькі агонь у каміне, толькі кнігі на паліцах, толькі яго пісаніна—нікому не патрэбныя параскіданыя папкі.

— Прымроілася, — ціха сказаў сабе доктар Тама.

Ноч пачалася неяк дзіўна — як у казцы ці ў паданні: агонь раптам незвычайна прыгожа бліснуў; за вокнамі сціх вецер; навакольная цішыня неяк дзіўна набракла прысутнасцю чагосьці неабдымнага...

— Садзіся ў машыну!

Немагчыма было вызначыць, адкуль чуўся голас,— са снежных гурбаў за акном, з каміна, з бэлек, з кніжных паліц ці з падманлівай памяці.

Доктар пацiснуў плячыма. Глупства! Матор старой калымагі даўно ўжо замёрз, у бачку ні кропелькі бензіну. Дый наогул, як гэтая іржавая старызна прабʼецца праз снежныя заносы? Ні старцёр, ні завадная ручка не прымусяць яе хоць раз чхнуць.

У каміне агонь бліснуў яшчэ ярчэй, быццам нябачныя рукі ўсыпалі ў яго поўныя прыгаршчы рубінаў. Сесці ў машыну? І што рабіць? Куды ехаць?

А голас усё настойліва шаптаў:

— Садзіся ў машыну, доктар Тама!

Ён паволі падняўся і выйшаў у сенцы. Шырокая накідка з казінай шэрсці для начных выездаў вісела на сваім звычайным месцы. У бясконцай сіні неба трымцелі зоркі. Букі і яліны ўрачыста выстраіліся ў сваім снежным убранні, нібы ў ганаровай варце.

Маленькая машына стаяла на тармазных калодках — нібы спала. Ён пяшчотна разглядаў яе пры цьмяным святле лямпачкі, ад якога серабрыўся пыл на стале і сценах. Колькі разоў ён зусім ужо збіраўся прадаць яе, але ў апошні момант перадумваў. Яна заслужыла адпачынак, не толькі ён—машына таксама. Калі такая думка прыходзіла ў галаву, абзываўся скептычны і насмешлівы голас: «Лухта—хіба для жалезнага ламачча ёсць адпачынак? Лепш прадай яго...»

І цяпер ён пяшчотна гладзіў машыну рукамі, некалькі разоў паволі абышоў вакол яе, нерашуча мацаў шыны, дакранаўся да ручак дзверцаў. Раней было зусім інакш — доктар Тама доўга не думаў. Ускокваў на сядзенне, усоўваў рукі ў старыя скураныя пальчаткі — і ў дарогу!.. Матор трашчаў, страляў, лескатаў. Маленькая машына штурмавала ўзгоркі. А людзі, лежачы ў цёплых пасцелях, думалі: «Ага! Нехта паклікаў доктара Тама. У гэткую ноч!»

Так, гэта вам не забава! Застылы матор часта ўпарціўся — не хацеў заводзіцца. А то колы буксавалі ў гразі ці ў снезе. Даводзілася прыладжваць ланцугі. Урач прыязджаў да сваіх пацыентаў з чорнымі ад картэрнага масла рукамі, у мокрай ад поту сарочцы.

— Садзіся ж, доктар, хутчэй у машыну!

— Што?

— Садзіся ў машыну. Нацягні на рукі пальчаткі!

Доктар Тама самотна патрос галавою. Гэта сон. У калядную ноч...

Тама залез у кабіну і зрабіў выгляд, быццам ён зноў такі, якім некалі быў, але кім на самай справе ўжо ніколі не будзе...

Раптам матор абазваўся кароткім бурклівым гукам, потым яшчэ адным. «Я ж не ўключыў яшчэ запальвання!» — здзівіўся доктар. Машына яшчэ некалькі разоў чмыхнула, дзверы гаража расчыніліся насцеж. Машына рушыла з месца, вырульваючы на дарогу, — падалася да веранды, каб развярнуцца. Руль сам круціўся ў руках доктара Тама.

Шыны ледзь чутка шоргалі па снезе. Доктар высунуў галаву з кабіны — ага, камеры надзьмуты! А хто ж расчысціў снег? Машына мякка kацілася наперад, як па гладкім асфальце.

Месяц асвятляў снежную раўніну. Дрэвы, хмызняк, нібы ўбраныя ў гарнастай, парканы, упрыгожаныя белымі шапкамі,— усё з вялікай хуткасцю праносілася міма.

— Дзе я? — усклікнуў доктар.

Матор загуў крыху мацней. Машына рванулася наперад і паімчала з дзіўнай лёгкасцю. Наўкол усюды снег. За акенцамі мільгалі яліны, букі, імгненныя ўспышкі, віхар іскраў. Доктара Тама апанавала прыемная млявасць. Якія добрыя амартызатары ў гэтым старым драндулеце! Ні разу не захліпнуўся матор!

Ішоў час. Месячнае святло залівала наваколле. раптам машына спынілася.

Па дарозе затупалі гулкія крокі.

— Няўжо доктар?! — пачуўся радасны голас.

Тама ўзяў з сядзення свой чамаданчык, адчыніў дзверцы і агледзеўся — спераду і ззаду роўная істужка дарогі, непадалёк адзінокі дамок, у месячным святле паблісkваюць белыя ўзгоркі. Мясцовасць незнаёмая.

— Дзякуй вам, што прыехалі, доктар, — прамовіў той жа голас. — Мы вас так хутка не чакалі. — Да машыны, усміхаючыся, падышоў селянін гадоў сарака ў вельветавых портках. — Да нас зусім блізка. Вунь бачыце? А хутка ж вы прыехалі!

— Хутка прыехаў?

— Так. Вы ж ад нас далёка...

Тама хацеў запытаць: «Дзе я? У чым справа? Як вы мяне выклікалі? Але селянін ужо шырока крочыў туды, дзе на цёмным фоне ночы светлым прамавугольнікам азначаліся расчыненыя дзверы. На парозе стаяла старая жанчына. Яна пачціва пакланілася доктару.

— Вось тут, доктар, налева, — сказала яна.

Тама ўвайшоў у пакой — прасторны, чысты, але бедны. Пабеленыя вапнай сцены, рудыя бэлькі, грувасткая шафа з арэхавага дрэва. Каля ложка, на якім ляжала жанчына, стаяла крэсла, засцеленае чыстай анучай. На анучы — таз і збан з цёплай вадой.

— Цудоўна, — сказаў Тама.—Да справы.

— Хлопчык, — праз нейкі час сказаў ён.

— Езус-Марыя, хлопчык! — крыкнула старая.

— Вось шчасце — хлопчык! — узрадаваўся бацька.

Тама спавіў дзіця. Маладая жанчына ўсміхалася, бацька радасна схіліўся над дзіцем.

— Як мы вам удзячны, доктар, не ведалі ўжо, што рабіць. Павітуха кудысьці пайшла, а доктар Гійом паехаў у Лімож.

— У Лімож?

— Так. Жонка яго сказала нам, што прышле каго-небудзь, і пазваніла вам па тэлефоне. Дзякуй, што так хутка прыехалі.

— А колькі кіламетраў адсюль да Ліможа?

— Сорак — сорак пяць... Колькі мы вам вінны, доктар?

— Нiколькі, нiколькі...

Сорак кіламетраў ад Ліможа? Ён жа прыехаў з самых Пірэнеяў!

— Усё ж, доктар, скажыце, колькі...

— Разлічыцеся з доктарам Гійомам.

Доктар даў яшчэ некалькі парад і пайшоў. Зноў пачуўся шум матора. Селянін заклапочана гаварыў услед доктару:

— Адпачылі б крыху, доктар... Сагрэліся б кубачкам кавы...

...Узяўшы з месца, зашоргалі колы, потым усё сціхла. Машына імчалася, як страла. Абапал дарогі мільгалі дрэвы. За ветравым шклом віхрыліся водбліскі месячнага святла, абрыўкі белых карункаў, рознакаляровыя блікі. У гэтым вірлівым мігценні святла яму пачуліся гукі песень і гул галасоў.

Доктар Тама пяшчотна гладзіў рукой руль і сумна шаптаў:

— Мы вяртаемся дадому, маленькая. Сон скончыўся.

Але раптам заскрыгаталі тармазы, і машына спынілася. Навокал быў густы туман, хоць рэж яго нажом. Потым праз змрок прабілася кволае святло, і перад самай машынай загойдаўся ліхтар. Пачуўся хрыплы голас:

— Хэло! Гэта вы, доктар Тама? Дзякуй, што прыехалі! Баяўся, каб вы ў возера не зваліліся.

З тумана вынік чалавек у плашчы з башлыком, падышоў да ўрача і моцна пацiснуў яму руку.

— Трымайце, доктар. Глыніце джыну — смялей пройдзеце праз мост. Цудоўнейшы сродак для падтрымкі духу.

Тама ўзяў пляшку і паднёс яе да вуснаў. Незнаёмы на ўсё горла зарагатаў. Потым сказаў:

— Да нас блізка. Мак Лі, напэўна растлумачыў вам, як нас знайсці, але з першага разу зрабіць гэта цяжка, а тут яшчэ туман.

Яны прайшлі праз драўляны мосцік, пад якім вiравала вада. З туману выплыла нізенькая хаціна з маленькімі квадрацікамі-вокнамі, якія свяціліся чырванаватым святлом.

— Да нас завіталі ўсе туманы Шатландыі — адзначыць нараджэнне майго сына, — сказаў чалавек, ідучы поплеч з доктарам.

— Сына?

— Так! У мяне будзе хлопчык. А калі не хлопчык, дык дзяўчынка. Усё роўна перакулім кілішак, га, доктар? І хутка ж вы прыехалі. І чвэрці гадзіны не прайшло, як я пазваніў доктару Мак Лі. Ён ніяк не мог прыехаць, але сказаў, што прышле доктара Тама. Можа, адразу і зойдзеце?

Тама не адказаў. Ён правёў рукой па гарачым ілбе. Не, гэта не ад джына. Ён у Шатландыі! Што за жарты? Выходзіць, ён мінуў усю Францыю, Ла Манш, Англію!

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

## ВЕСЕЛА, ДЫ НЕ ДУЖА...

Мал. А. ЗАЎЯЛАВА.



Мабыць, цяпер прадаўшчыцы ўсё-такі звернуць на мяне ўвагу!..




Кожны дагаджае начальству, як можа.



Паўло ГЛАЗАВЫ

## КУМЫ НА КУРОРЦЕ

**З кумам мы душа ў душу жывём.**
**— Давай у Ялту «дзікунамі» маханём!**
**Апрануліся, айда ў аэрапорт!**
**За гадзіну прыляцелі на курорт.**

**Першу ноч мы спалі ў Ялце на траве,**
**А пасля ў нейкай цёткі ў хляве.**
**Цётка хваліць нам хароміну сваю:**
**— Вам, «дзікарыкі», тут будзе, што ў раю.**

**Перад вамі тут жыла мая свіння,**
**Па паўпуда папраўлялася штодня.**
**Кум гаворыць: «Добра, цётка, пажывём,**
**Не дзівіся, калі рохкаць мы пачнём».**

**Рана ўранку у сталоўку мы бяжым.**
**Чарга дойдзе—хлеб з гарчыцаю ядзім,**
**Бо сабралася ля мора «дзікуноў»,**
**Як у полі кукурузных кіяхоў.**

**Вось валяемся мы з кумам на пяску,**
**А галодныя, аж коліць у баку.**
**Кум заўважыў каля берагу мядуз**
**І лавіць іх захадзіўся у картуз.**

**З'еў тры штукі, як за чаркай селядзец.**
**— Еш, кумок, яно ж зусім, што халадзец.**
**Як тры штукі ты мядузаў тых з'ясі,**
**То заменіць грам пятнаццаць каўбасы.**

**За паўмесяца папраўіліся так —**
**Засталіся толькі скура ды касцяк.**
**З намі дамы не жадаюць танцаваць,**
**Бо схуднелі мы, аж косці тарахцяць.**

**Сонца грэе, разганяючы туман.**
**Кум мой пахне, як падсмалены кабан.**
**Сонца смаліць, скура аж трашчыць.**
**—А ну, плюнь, кумок, на спіну— не шкварчыць!**

**Цераз месяц прымчаліся дамоў**
**І хутчэй за стол без лішніх слоў.**
**Кум да ежы як дарваўся—што здурнеў.**
**За гадзіну, што паставілі, ўсё з'еў!**

**Потым даў каманду жонцы: «Прынясі**
**Ўсе запасы сала, шмальцу, каўбасы,**
**Кош баранкаў, тры буханкі і калач!»**
**Жонка ў слёзы. Кум гаворыць: «Ты не плач!**

**Рада будзь, галубка, што ёсць бог,**
**Што на тым курорце дзікім я не здох.**
**Справа іншая як чайкі кружаць, во—краса!**
**Ды смачней за розных птушак каўбаса!»**

Пераклад з украінскай мовы Міхася СКРЫПКІ.




— ГАЛЕНКА, зірні хто прыехаў!..

Сымон Буцянка ледзьве не самлеў ад шчасця. Уважыў-такі Ігнат Ігнатавіч, завітаў да яго ў суботу! Лепшага свята не трэба! Трэст жа вунь які, а дырэктар на ўсіх — адзін.

Пакуль жонка збірала на стол, Сымон павёў госця ў садок. У паўдзённую спёку адно задавальненне блукаць па цяністай сцяжынцы, дыхаць водарам кветак, паспытаць садавіны. Яблыкі паспелі ўжо, быццам мядком налітыя. І пчолкі звіняць. Праўда, не Сымонавы — суседскія.

— Сваіх няблага займець, — хрумстае яблык Ігнат Ігнатавіч. — Вялікая карысць ад пчол для здароўя.

— Само сабой! — пагадзіўся Буцянка. — Абы прыязджалі! Займею пчолак!

— Мёд—жывы нектар! Лякарства!

— Ёсць, ёсць мядок, І мядовачкі прыпас!

— А пчалінае джала? Не чуў? Прыняў сеанс — радзікуліт бы рукой зняло.

Няўжо памагае ад радзікуліта? Дык і самому льга падлячыцца. Бо ўзяць хоць сёння. Пасля здароўкання з Ігнатам Ігнатавічам ледзьве разагнуўся. Так вось кручком-пытальнікам і сунуўся ўслед ад брамы да ганка. Адпусціў толькі, пракляты, калі на ганак выскачыла жонка.

Гудуць, звіняць пчолкі. Адна да высокага госця прывязалася. Во назола! Ды гэта ж не пчала — шэршань! Ігнат Ігнатавіч адхіснуўся, замахаў рукамі.

— Не бараніцеся, Ігнат Ігнатавіч! — затрымцеў гаспадар. — Горш раздражніце!..

Толькі ж і сам не сцярпеў, падскокнуў, пляснуў над дырэктаравай галавой далонямі—хацеў памагчы.

Шэршань, чорна-рыжы, гаматны, як бразільскі футбаліст, закружыў верталётам, загудзеў, як арган у касцёле.

— Уф! — хапіўся Ігнат Ігнатавіч за шчаку. — О-ох!..

— А ліха на яго! — перапалохаўся Буцянка. — Зараз халоднай зямелькай патру...

— Можа якой маззю памазаць? — стагнаў Ігнат Ігнатавіч.

— Што вы, што вы! — скацілася з ганка Сымонава маладзіца. — Змачу ў сцюдзёнай вадзе ды прыкладу хусцінку...

— Во-во! — падтакваў Буцянка. — Ураз палягчэе, Гнат Гнатавіч... Галенка мая санітаркай у бальніцы працавала, наскрозь медыцыну ведае...

Але кампрэс не памог. Ігнат Ігнатавіч гатовы быў па мураве качацца. Прысеў, усхапіўся, зноў прысеў. Затым, не зважаючы на свае дзевяноста кілаграмаў, прытчэй за якога дзецюка сігануў да «волгі». Шафёр даў газу. Машына рванула, знікла ў клубах пылу.

Вось так шкоднае насякомае сапсавала ўсё свята.

— Лепей бы той шэршань мяне жыгануў! — ажно заплакаў Сымон Буцянка.

## УСМЕШКІ АДРЫЯТЫКІ

*З ЮГАСЛАЎСКАГА ГУМАРУ*

— Вы прапаноўвалі ўжо каму-небудзь сваю п'есу?—спытаў дырэктар у драматурга.
— Не, пан дырэктар.
— А адкуль жа ў вас гузак на лобе?

□

— Вам, капітан, даводзілася шмат чаго зведаць на моры?
— Усё было, хлопча. Помню, напрыклад, страшны дзень, калі на караблі скончыўся ром.

□

— Мая былая гаспадыня расплакалася, калі я пакідаў яе.
— У такім разе плаціце наперад.

□

Зубны ўрач:
— Не раскрывайце так шырока рот.
— Але ж вы сказалі, што будзеце рваць абцужкамі.
— Так, але ж сам я ў рот не палезу.

□

— Ці праўда, што жанатыя людзі даўжэй жывуць?
— Не, ім гэта толькі здаецца.

□

Пасля прэм'еры публіка закідала галоўнага героя кветкамі. Але хтосьці з залы кінуў жмут сена. Калі шум аціх, артыст звярнуўся да гэтага гледача: «Вам я асабліва ўдзячны, і ўсё ж вы не павінны былі ахвяроўваць дзеля мяне сваёй ежай».

□

— Прывітанне, Мірка! Колькі лет, колькі зім! Ты, браце, нешта дужа перамяніўся?
— Даруйце, але я не Мірка, а Франё!
— Ух ты, і імя перамяніў!

□

— Апошні раз пытаюся: калі ты вернеш доўг?
— Вельмі рады, што пытаешся ты гэта ў апошні раз.

□

— Сусед, вы не ўяўляеце, што гэта за штука—халадзільнік! Яйкі, масла, мяса—нішто не сапсуецца.
— У мяне таксама нічога не псуецца, хоць халадзільніка і няма.
— Не можа быць! Як жа ты выкручваешся?
— А ў мяне шасцёра дзяцей.

□

— Вы аднеслі рахунак пастаяльцу з 22-га пакоя?
— Паўгадзіны назад.
— Нічога не разумею: ён усё спявае!

□

— Гэтаму вулкану пяць мільёнаў гадоў і два гады...
— А чаму менавіта два?—спытаўся турыст.
— Калі я два гады паступіў сюды на работу,—адказаў экскурсавод,—мне сказалі, што яму пяць мільёнаў гадоў.

□

— Вы кажаце глупства.
— Але, для таго, каб вы мяне зразумелі.

□

— Ты адрамантаваў званок у прафесара?
— Не. Я тройчы званіў, але мне ніхто не адчыніў.

□

— Вашы куры ўвесь час топчуцца на маім гародзе.
— Я так і ведаў, бо штодня адна з іх дадому не вяртаецца.

□

— Вы п'яны, і я баюся, што не зможаце мяне пагаліць.
— Не бойцеся. Пакажыце толькі, дзе ваш падбародак.

□

— Тата, чаму старажытныя грэкі заўсёды малявалі перамогу ў жаночым вобліку?
— Даведаешся, сынок, калі ажэнішся.

Рыгор БОХАН

## ВАКОЛ РЫБАЛКІ

*— Ты што-небудзь прынёс пасля ўчарашняй рыбалкі?*
*— Ага. Квітанцыю. Штраф заплаціў.*

□

*— Ты чаму рыбалку закінуў?*
*— На рабоце забаранілі. Пры складанні каштарысаў перабольшванні дапускаў.*

□

*— І ты верыш мужу, што ён ходзіць на рыбалку? Ён жа ніводнай рыбіны ні разу не прынёс!*
*— Вось таму і веру.*

□

*Прафесіянальная хвароба рыбаловаў: спінінгіт.*

Уладзімір РУДЗІНСКІ

## МІМАХОДЗЬ

Падаць руку дапамогі—гэта не толькі прывітацца.

□

Яго духоўным спажыткам былі пірагі, спечаныя ў духоўцы.

□

«З песні слова не выкінеш», — сказаў малады аўтар рэдактару. «Вядома так», — згадзіўся той, і выкінуў... усю песню.

□

Адным бусел прыносіць шчасце, іншым—толькі дзяцей.

□

П'яніца даказваў, што закон зямнога прыцягнення вымяраецца ў градусах.

□

Нават у свой смяротны час паклёпнік на апошнім ананімным пісьме зрабіў адзнаку: «Працяг будзе...»

□

Злодзей хадзіў без шапкі—баяўся пажару.

□

«Ваўкоў баяцца—у лес не хадзіць»,—любіў гаварыць шэранькі козлік. А да чаго гэта прыявяло—кожны ведае са старой песенькі.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63856. АТ 20997

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25 25, адказнага сакратара—33-44 04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24 62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22 19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.

Галоўны рэдактар Л. Я. ПРОКША.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, В. М. АЛАДАЎ, А. Ц. БАЖКО (намеснік галоўнага рэдактара), Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.